# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 9 (940) ГОД XIX БЕЛАСТОК 3 САКАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.

### Сустрэчы з землякамі

Дагаварыліся мы на сустрэчу ў яго варшаўскай кватэры, якая знаходзіцца на 10 паверсе такога велізарнага жылога гмаху, што ўмясціў бы ён усіх жыхароў яго роднай вёскі.

— Магістр эканоміі Уладзімір Годун, старшы саветнік Міністэрства замежнага гандлю, адказны работнік дэпартамента гандлёвай палітыкі, секцыя першая, — прачытаў я яшчэ раз яго візітную картачку.

— Бацькі мае ўжо вельмі старэнькія, — кажа іх вучоны сын, — маме і таце ўжо за 80 гадоў. Яшчэ гады два таму назад яны самастойна вялі ўласную гаспадарку, і я ім дапамагаў. Кожны водпуск праводзіў на вёсцы.

Бацька Уладзіміра шмат чаго бачыў і перажыў у сваім доўгім жыцці. У 1915 годзе быў бежанцам, трапіў у армію, пасля — у памятны 1917 г. — стаў чырвонагвардзейцам, салдатам рэвалюцыі. Аднак ні разу не падумаў, што калісьці голас яго сына будзе гучаць на міжнародных канферэнцыях, або ў час падрыхтоўкі міждзяржаўных гандлёвых дагавораў.

## З ВЁСКІ ЧОРНАЯ Ў ЕЎРОПУ

Дзверы адчыніў невысокі, шчуплы, заўчасна пасівелы мужчына і запрасіў у сваю скромную, аднакомнатную кватэру.

„Гэты чалавек, — падумаў я, — не даўся запалоніць мяшчанскім густам. Відаць, унутраныя якасці цэніць ён вышэй ад вонкавай пазалоты“.

— Выбачайце, я крыху нездароў і таму па-дамашняму, — сказаў ён, — паказваючы мне на крэсла.

Уладзімір Годун нарадзіўся ў 1935 годзе ў сялянскай сям'і, якая яшчэ цяпер жыве ў вёсцы Чорная Сярэдняя, што пад Сямяцічамі.

Атэстат сталасці Уладзімір Годун атрымаў у Бельскім тэхнікуме сельскагаспадарчай бухгалтэрыі, яшчэ ў 1954 г. Накіравалі яго на работу ў Прэзідыум ПРН у Сямяцічах. Дапамагаў спулдзельням прадукцыйным весці рахункі і разлікі.

У 1956 г. падаўся ў Варшаву, без так званых „знаёмстваў“ і добразычлівых „дзядзькоў“ стаў студэнтам факультэта эканоміі прадукцыі Галоўнай школы планавання і статыстыкі.

— Стыпендыі, вельмі скромнай, не хапала на ўсе мае патрэбы, — успамінае цяперашні старшы саветнік міністэрства. — Прыходзілася хадзіць у заробкі. Заказы атрымлівала студэнцкая спулдзельня „Мацюсь“. Рабілі мы ўсё, што толькі можна было прыдумаць. Мылі вокны, чысцілі дываны, глянцавалі паркеты, няньчылі дзяцей, забаўлялі старэйшых дам, якім сумна было аставацца ў адзіночку... Ад недаядання і нерэгулярнага харчавання папсаваўся мой страўнік. Гэтай хваробы не магу я пазбавіцца да сённяшняга дня.



*Уладзімір Годун, старшы саветнік Міністэрства замежнага гандлю.*

У 1961 г. сялянскі сын Уладзімір Годун стаў магістрам эканоміі.

— Пісаў я працу на тэму „Умовы і перспектывы гаспадарчага развіцця Сямяціцкага павету“. Першую прафесіянальную працу атрымаў у Міністэрстве ўнутранага гандлю. Найбольш аднак задавальнення, — сцвярджае наш зямляк, — давала мне праца ў Міністэрстве хімічнай прамысловасці, дзе я ўвайшоў у

(Працяг на стар. 4)



*Сельскагаспадарчая кнігарня ў Беластоку.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## ДОБРЫ ГОД

Вядомы ўжо вынікі папулярнасці „Нівы“ ў 1973 годзе. У гэтым годзе дасягнула яна найбольшага тыражу ад моманту ўзнікнення. Значыць, папулярнасць яе ўсё расце, усё больш купляюць яе чытачы, асабліва з паўднёва-ўсходніх паветаў Беласточчыны.

Добрыя вынікі не прыйшлі самі па сабе. Папрацавалі пісьманосцы, начальнікі пошт, дзеячы і актывісты БГКТ, а таксама настаўнікі.

У мінулым годзе было ў сярэднім 4547 падпісчыкаў „Нівы“. Найбольш было іх у Клейніках, Чыжах, Кляшчэлях, Рыбалах, Старым Корніне, Орлі.

Найлепшыя вынікі ў распаўсюджванні „Нівы“ атрымалі наступныя начальнікі пошт і пісьманосцы: Баляслаў Кучко, Ніна Грыгарук, Сяргей Пташынскі, Ян Петручук, Мікалай Панфілюк, Уладзімір Місеюк, Валянцін Вішанка, Васіль Бялькевіч, Мікалай Лясота, Ян Кірылюк.

Пры дапамозе гандлёвай сеткі (кіёскі „Руху“) распаўсюджвалася ў сярэднім 1766 экземпляраў газеты.

Пры гэтых дасягненнях нельга спачываць на лаўрах. Трэба імкнуцца, каб кола чытачоў „Нівы“ яшчэ больш пашыралася, было ўстойлівае і актыўнае.

**М. Гогель**

## ХРОНІКА БГКТ

■ Фінал песеннага конкурсу БГКТ перанесены на 3 сакавіка. Адбудзецца ён у Беластоку ў кінатэатры прафсаюзаў на вуліцы Дзяржынскага. Пачатак у 10 гадзін.

■ 15 лютага сямяціцкі аддзел БГКТ у Мілейчыцах правёў песенны конкурс, у якім прынялі ўдзел 32 асобы. Усе яны спявалі сучасныя песні. У катэгорыі салістаў I месца журы прызнала Мікалаю Парфенюку з Вулькі Нурэцкай, II месца не прызнана, а III месца заняла Крыстына Шмурло з Сямяціч. Дуэт быў толькі адзін, і яму было прызнана I месца. Выступілі ў ім сёстры з Мікуліч Вера і Марыя Манцюк. У конкурсе гэтым прыняло ўдзел 6 вакальных калектываў. Сярод іх першае месца заваявала трыё з Мікуліч: Надзя Мікалаюк і сёстры Вера і Марыя Манцюк. II месца атрымаў калектыў з Клюковіч: Тэрэса Колч, Аліна і Ліля Брык. III месца заняў калектыў з Мілейчыц, у які ўваходзілі Міраслава Абрамовіч, Ірэна Касярчук, Эльжбета Татарчук і Уршуля Езюк. Удзельнікі конкурсу атрымалі ўзнагароды, а найлепшыя з іх — саліст Мікалай Парфенюк і сёстры з Мікуліч — прымуць удзел у фінале песеннага конкурсу БГКТ. У перапынку, калі журы прыступіла да ацэнкі паасобных выканаўцаў песень, выступіў са сваімі вершамі паэт Ян Чыквін.

■ 16 лютага паэт Алесь Барскі правёў аўтарскі вечар у клубе гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

■ Беластоцкі павятовы аддзел БГКТ арганізаваў нядаўна аўтарскія сустрэчы Сакрата Яновіча і Яна Чыквіна. Сакрат Яновіч 6 лютага сустрэўся ў Доме культуры імя К. Каліноўскага з жыхарамі Гарадка. Чытаў ён свае творы і адказваў на шматлікія пытанні. Падобная сустрэча Сакрата Яновіча адбылася ў Васількове 15 лютага, а 16 лютага — у школах у Рыбалах і Цялушках. Вечарам у гэты дзень адбыўся супольны аўтарскі вечар Сакрата Яновіча і Яна Чыквіна ў клубе ў Паўлах. 16 лютага Ян Чыквін чытаў свае вершы ў школах у Войшках і Паўлах.

■ Ад 15 лютага харавы калектыў БГКТ у Дубяжыне праводзіць свае рэпетыцыі ў вясковым доме культуры, які аддадзены нядаўна ў карыстанне, а пабудаваны грамадскім чынам у асноўным членамі БГКТ.

■ 17 лютага песенны конкурс БГКТ адбыўся ў Гайнаўцы ў Доме настаўніка. Удзельнічала 45 чалавек. Выканаўцам фальклорных песень былі прызнаны наступныя месцы: салістцы Анне Стахвіюк з Трасцянкі — I месца; сярод дуэтаў I месца занялі жанчыны з Арэшкава — Вера Кошэль і Анна Парфенюк; II месца занялі Ірэна Лук'янюк і Анна Кердэлевіч з Чаромхі, а III месца — Таіса Якубоўская і Варвара Нігерэвіч з Сухавольцаў. У катэгорыі фальклорных вакальных калектываў I месца занялі дзяўчаты з Чаромхі: Марыя Кас'янюк, Галіна Кушчэрчук, Галіна Мусюк, Ірэна Акочук, Валянціна Раманюк, Аліна Праховіч, Міраслава Селех і Марыя Вашчук. II месца занялі жанчыны з Арэшкава: Вера Кошэль, Анна Парфенюк, Ніна Авэрчук, Тацьяна Гурын.

У катэгорыі сучасных песень сярод салістаў I месца прызнана Аляксандру Бандаруку са Старога Ляўкова і II месца Язэпу Дмахоўскаму з Белавежы. Сярод дуэтаў I месца занялі Валянціна Карэтка і Галена Куптэль з Трасцянкі і II месца — Тэрэса Вдоўская і Марыя Пашко з Гайнаўкі. У катэгорыі вакальных калектываў журы прызнала два I месцы калектывам з Белавежы і з Гайнаўкі. Калектыў з Белавежы — гэта Язэп Дмахоўскі, Уладзімір Сікорскі, Віктар Мерынг, Васіль Скепка, Віталіс Шпаковіч, Васіль Байко, Славамір Шпаковіч і Здзіслаў Сава. Гайнаўскі калектыў складаецца з вучаніц беларускага ліцэя: гэта Галіна Конах, Ірэна Заброцкая, Ірэна Шыманюк, Лідзія Раманюк, Серафіма Кердэлевіч, Надзя Казачук, Галіна Кердэлевіч і Люба Секан. Усе ўдзельнікі песеннага конкурсу БГКТ атрымалі ўзнагароды. Тыя ўдзельнікі, якія заваявалі першыя месцы, паедуць у Беласток на фінальны агляд.

(мх)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"



### ДА ВАЯВОДСКАГА З'ЕЗДУ ЗСЛ

## ЛЮДОЎЦЫ

27 лютага адбыўся XI Ваяводскі з'езд Аб'яднанага людовага страніцтва (ЗСЛ). З'езд падсумаваў двухгадовую дзейнасць страніцтва на Беласточчыне і адначасова намеціў асноўныя напрамкі дзейнасці да 1976 года. Члены ЗСЛ на Беласточчыне згуртаваныя ў 1649 гуртках, з якіх 1476 дзейнічаюць на вёсках. Ваяводская арганізацыя налічвае больш 18,5 тыс. членаў ЗСЛ. Прымалі яны і прымаюць актыўны ўдзел ва ўсіх пачынаннях, накіраваных на павышэнне ўзроўню сельскай гаспадаркі, грамадскага і культурнага развіцця беластоцкай вёскі. Хай сведчыць аб гэтым і той факт, што ў .час апошніх выбараў раднымі было выбрана аж 1216 членаў ЗСЛ, больш 10,5 тыс. з'яўляюцца членамі сельгасгурткоў, а 2657 маладых ЗСЛ-цаў — гэта члены ЗСМВ.

Беластоцкая арганізацыя ЗСЛ у асноўным займалася развіццём вёскі і сельскай гаспадаркі нашага рэгіёна. У снежні 1972 г. адбылося супольнае пасяджэнне ваяводскіх камітэтаў ПАРП і ЗСЛ, прысвечанае асноўным напрамкам развіцця сельскай гаспадаркі і спажывецкай прамысловасці на Беласточчыне.

Грамадская праца беластоцкіх людоўцаў была падпарадкавана хутчэйшай рэалізацыі намечаных супольнымі пленумамі заданняў. Адной з такіх спраў была апека добрых гаспадароў-ЗСЛ-цаў над адстаючымі гаспадаркамі. Толькі на працягу мінулага года было ўзята пад апеку 1.100 гаспадарак, многія з якіх ужо папраўіліся і ёсць надзея, што іх прадукцыя будзе раўняцца прынамсі ся-

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі · Здарэнні · Факты · Каментарыі · Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### СЯМІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ А. КАСЫГІНА

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, за вялікія заслугі перад Камуністычнай партыяй і Савецкай дзяржавай і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння Старшыня Савета Міністраў СССР А. Касыгін узнагароджан ордэнам Леніна і другім залатым медалем „Серп і Молат“.

### УЗАЕМАВЫГАДНЫ ГАНДАЛЬ

Урад ЗША надае вялікае значэнне ўзаемавыгаднаму развіццю гандлёвых адносін з Савецкім Саюзам, заявіў міністр гандлю ЗША Ф. Дэнт.

Адзначыўшы, што ў 1973 годзе таварабарот паміж ЗША і СССР значна ўзрос, Дэнт указаў на зацікаўленасць амерыканскага ўрада ў далейшым расшырэнні гандлю паміж дзвюма краінамі.

### ТЭРОР ХУНТЫ

Расце колькасць злачынстваў чылійскай ваеншчыны. У краіне не спыняюцца катаванні, расстрэлы, вобыскі і праследванні цывільных асоб. У выніку злачынстваў фашыствуюшчай салдатні загінулі дзесяткі тысяч патрыётаў Чылі, звыш ста тысяч чылійцаў пакутуюць у канцэнтрацыйных лагерах.

Верхавод ваеннай хунты генерал Піначэт заявіў, што асаднае становішча і так званыя „надзвычайныя меры“ супраць прыхільнікаў Народнага адзінства будуць захоўвацца многія гады. Ён падкрэсліў, што „надзвычайныя меры“ не могуць быць адменены „прынамсі на працягу пяці гадоў“.

### СЕСІЯ ССМ

У Сафіі завяршыла работу сесія Сусветнага Савета Міру. Сесія аднадушна прыняла рэзалюцыю па В'етнаму, Лаосу і Камбоджы, якая заклікае да ўстанаўлення трывалага і справядлівага міру ў гэтым раёне зямнога шара. Таксама аднагалосна была прынята рэзалюцыя аб становішчы на Блізкім Усходзе. Удзельнікі сесіі зацвердзілі тэкст тэлеграмы ў адрас Генеральнага сакратара ААН Курта Вальдхайма, якая заклікае яго выкарыстаць увесь аўтарытэт ААН для выратавання Генеральнага сакратара Кампартыі Чылі Луіса Карвалана і іншых патрыётаў Чылі.

Быў прыняты таксама асноўны дакумент сесіі — заклік „За трывалы, дэмакратычны і справядлівы мір“.

Генеральным сакратаром Сусветнага Савета Міру зноў выбраны Рамеш Чандра.

### „БРЫТАНІКА“

14-томная Брытанская энцыклапедыя ў дагэтуляшнім выданні выходзіць не будзе. Старэйшае выданне, якое заснавана ў 1768 годзе ў Эдзінбургу (Шатландыя), перайшло нядаўна пад апеку Чыкагскага універсітэта ў ЗША. Новая Брытанская энцыклапедыя надалей будзе выходзіць у 30 тамах і складацца з трох асноўных раздзелаў, або „курсаў“. Першы — уводзіны — класіфікацыя ўсіх галін ведаў. Затым ідзе дзесяцітомны даведнік. Заключны раздзел „Брытанікі“ складаецца з вялікіх публікацый, якія часам дасягаюць размерам да 250 тысяч слоў і прысвечаны важнейшым пытанням сучаснасці. (ак)

## БССР

### НАРАДА ПА ТЭЛЕФОНУ

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі і Савета Міністраў Беларускай ССР правялі 19 лютага гэтага года рэспубліканскую нараду „па правадах“. Была яна прысвечана падрыхтоўцы да сёлетняй вясны, якая распачалася ўжо ў лютым. Удзельнікамі гэтай нарады „па правадах“ былі кіраўнікі партыйных, савецкіх і сельскагаспадарчых органаў вобласцей, раёнаў, кіраўнікі, галоўныя спецыялісты, сакратары партыйных арганізацый калгасаў і саўгасаў. З прамовай да ўдзельнікаў нарады звярнуўся сакратар ЦК КПБ У. Міцкевіч. Варта адзначыць, што дзякуючы выкарыстанню сучаснай тэхнікі сувязі, у гэтай нарадзе прыняло ўдзел шмат тысяч чалавек, не адрываючыся ад сваіх месц працы.

### КАМСАМОЛ БЕЛАРУСІ...

...рыхтуецца да свайго чарговага XXV з'езду. У сувязі з гэтым Цэнтральны Камітэт ЛКСМБ наладзіў 19 лютага прэс-канферэнцыю для журналістаў Мінска. Да свайго чарговага з'езду рэспубліканская камсамольская арганізацыя прыходзіць, шмат павялічыўшы свае рады і ўзмацнеўшы арганізацыйна. Цяпер у радах ЛКСМ Беларусі налічваецца амаль мільён 200 тысяч юнакоў і дзяўчат. Больш чым 800 тысяч маладых рабочых спаборнічае цяпер пад дэвізам „Пяцігодцы — ударную працу“, шырокі размах набыла барацьба за камуністычныя адносіны да працы, больш чым 180 тысяч юнакоў і дзяўчат удастоены ганаровага звання „ударнік камуністычнай працы“.

### НА МАЗЫРСКІМ НАФТАПЕРАПРАЦОЎЧЫМ

Хуткімі тэмпамі ідзе будаўніцтва аднаго з буйнейшых хімічных прадпрыемстваў БССР — Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода. Цяпер тут поўным ходам вядзецца мантаж унікальных калон стабілізацыі і іншай складанай апаратуры.

### ПАД ІЛЬНОМ

Гаспадаркі Віцебшчыны вырашылі сёлета заняць ільном амаль 80 тыс. гектараў, на звыш 5 тыс. гектараў больш, чым у мінулым годзе. Гэта самае вялікае льняное поле на Беларусі.

Беларускі лён называюць „паўночным шоўкам“. Цяпер праводзяцца намаганні, каб лён стаў гонарам беларускіх земляробаў. Такі лозунг аб'явіў часопіс „Работніца і сялянка“. Яго падтрымалі іншыя газеты, у тым ліку „Звязда“.

### МІНСКІ МЕТРАПАЛІТЭН

Генеральным планам забудовы сталіцы БССР прадугледжваецца неабходнасць пабудовы ў Мінску сучаснага метрапалітэна. Развітая сетка метро будзе складацца з трох асноўных дыяметраў. Перасякаючыся ў цэнтры горада, а дакладней у раёне Прывакзальнай, Цэнтральнай і Юбілейнай плошчаў, яны пройдуць па ўсіх асноўных напрамках аж да аддаленых ускраін з перспектыўнай забудовай. Даўжыня мінскага метрапалітэна аблічваецца на 50 км. Першая лінія пройдзе галоўным чынам па Ленінскаму праспекту, які ўжо цяпер перагружаны транспартам. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### СУСТРЭЧА НА ШЛЁНСКУ

У Катавіцах адбылася сустрэча працоўных. Удзельнічалі перадавыя шахцёры, сталявары, металургі, вучоныя, інжынеры, тэхнікі — прадстаўнікі ўсіх працоўных груп. Яны выказалі аднадумную падтрымку тэзісам ЦК ПАРП на XXX-годдзе ПНР.

У сустрэчы ўдзельнічаў Э. Герэк, які выступіў са словам. Панавала атмасфера ўздыму.

### ГАДАВІНА САВЕЦКАЙ АРМІІ

У 56-ую гадавіну Савецкай Арміі ва ўсёй краіне адбываліся ўрачыстасці. Урачысты канцэрт адбыўся ў Варшаве. На ім прысутнічалі члены Палітбюро ЦК ПАРК. Выступаў Цэнтральны калектыў Войска Польскага.

### ДЛЯ АДЗНАЧЭННЯ XXX-ГОДДЗЯ

Усё больш абавязацельстваў прымаюць працоўныя розных галін гаспадаркі, каб такім чынам адзначыць юбілей краіны — яе XXX-годдзе. Абавязацельствы — гэта звышпланавая прадукцыя, ашчаднасць матэрыялаў, карацейшыя інвестыцыйныя цыфры.

### ПОЛЬСКА-САВЕЦКІЯ ДАГАВОРЫ

Былі падпісаны два польска-савецкія гаспадарчыя дагаворы: 1) Аб пашырэнні ў гадах 1974-75 навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва ў галіне вугальнай прамысловасці і 2) Аб рынкавым абмене таварамі паміж Польшчай і Украінскай ССР.

### БУДУЧАЯ ВАРШАВА

I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і прэм'ер ПНР П. Ярашэвіч пазнаёміліся з планамі разбудовы сталіцы ў будучай пяцігодцы. Найбольшымі будовамі будуць Торунская траса і Заходні Цэнтр.

### НЕ АДНЫМІ ТРАДЫЦЫЯМІ

У цыкле „Культура і чалавек“ „Трыбуна Люду“ змясціла артыкул Марка Яворскага аб Беласточчыне. Аўтар піша, між іншым, аб нацыянальных меншасцях Беласточчыны і аб удзеле нацыянальных таварыстваў у развіцці раёна.

### СЕСІЯ І ЗАКЛІК ФАН

Адбылася сесія Агульнапольскага камітэта ФАН, прысвечаная заданням Фронту адзінства народу ў XXX-годдзе ПНР. З дакладам выступіў прафесар Я. Грашкоўскі — старшыня Агульнапольскага камітэта ФАН.

### Г. МІС У Э. ГЕРКА

I сакратар ЦК Э. Герэк прыняў старшыню Германскай камуністычнай партыі Г. Міса, які наведаў нашу краіну з візітам дружбы.

### ВІНШАВАЛЬНАЯ ТЭЛЕГРАМА А. КАСЫГІНУ

У сувязі з 70-ай гадавінай з дня нараджэння А. Касыгіна — прэм'ера савецкага ўрада, Э. Герэк, Г. Яблонскі і П. Ярашэвіч накіравалі юбіляру віншавальную тэлеграму.

### ЮБІЛЕЙ Я. ІВАШКЕВІЧА

У сувязі з 80-ай гадавінай з дня нараджэння і 60-ай гадавінай літаратурнай працы Яраслаў Івашкевіч атрымаў віншаванні ад Э. Герка. I сакратар ЦК ПАРП уручыў юбіляру прызнаны яму Радай Дзяржавы ПНР Вялікі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ФАН

24 лютага адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу. Галоўнай тэмай пасяджэння былі задачы камітэтаў ФАН у годзе 30-годдзя Народнай Польшчы. З дакладам выступіў старшыня ВК ФАН С. Кудла. На пленуме гаварылася аб дасягненнях нашага ваяводства за апошнія 30 год, аб асабліва добрай працы беластаччан у апошнія гады, аб актывізацыі грамадства ў год 30-годдзя, аб цікавых планах на будучае. У дыскусіі шмат гаварылася аб абавязацельствах калектываў многіх прадпрыемстваў дадатковай працай адзначыць юбілей. На заканчэнне пленум прыняў праграму святкавання юбілею народнай Польшчы і дзве пастановы: аб працы грамадскім чынам у гонар юбілею і аб будове помніка героям беластоцкай зямлі. Пленум ВК ФАН выступіў з заклікам да ўсіх людзей працы, каб нядзелю 28 красавіка зрабіць днём працы грамадскім чынам у гонар 30-годдзя народнай дзяржавы.

### ДЗЕНЬ САВЕЦКАЙ АРМІІ

У сувязі з 56-ай гадавінай Савецкай Арміі грамадства Беласточчыны ўшанавала памяць савецкіх воінаў, загінуўшых пры вызваленні Беласточчыны, складаючы вянкі ля помніка Удзячнасці ў беластоцкім парку. Ля помніка стаяла ганаровая варта, гарэлі факелы. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі ваяводскіх улад на чале з I сакратаром ВК ПАРП З. Куроўскім і беластоцкім ваяводам З. Спрыхам. Прысутнічала таксама дэлегацыя Паўночнай групы савецкіх войск — афіцэры М. Цыганаў, Ул. Андрэешчанка і М. Жыткоў.

Савецкія афіцэры пабывалі на шматлікіх сустрэчах з моладдзю ў беластоцкіх сярэдніх школах і на некалькіх прадпрыемствах Беласточчыны. Падставовая школа ў Гарасімовічах (Дуброўскі павет), якая носіць імя Героя Савецкага Саюза Г. Кунавіна, атрымала ад савецкіх афіцэраў падарунак — поўную, камплектную форму савецкага воіна з перыяду II сусветнай вайны. Падарунак будзе знаходзіцца ў школьным пакоі народнай памяці.

У кінатэатры „Студыё“ адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны гадавіне Савецкай Арміі.

### ТАВ. З. КУРОЎСКІ АДКАЗВАЕ

У сувязі з беластоцкімі днямі ў Варшаве сталічная газета „Жыцце Варшавы“ запрасіла I сакратара ВК ПАРП у Беластоку на размовы пры тэлефоне. Сакратар адказваў на пытанні чытачоў. Тэлефон званіў беспералынна. Людзі пыталіся аб перспектывах развіцця нашага ваяводства і аб турызме, цікавіліся будаваннем дарог, аховай натуральнага асяроддзя, студэнты пыталіся аб умовах працы. Званілі і беластаччане з канкрэтнымі пытаннямі аб працы розных установ і ў агульных справах. (яч)




**Niedziela 3.III.**
6.40 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.10 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie''. 8.45 „Bieg po zdrowie''. 8.55 Program dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 PKF. 10.30 „Z kamerą wśród zwierząt''. 11.00 Inauguracja Dnia Olimpijczyka. 12.00 Dziennik. 12.15 Karajan dyryguje Beethovena. 12.55 Program wiejski. 13.25 „Piórkiem i węglem''. 13.55 Dla dzieci: W. Chotomska — „Dlaczego ciele ogonem miele?''. 14.30 „Rekonesans w przeszłość'' — Statek kosmiczny — Ziemia. 15.10 „Polska 74 — Białystok Warszawie'' — teleturniej. 16.10 „Utwory dla moich przyjaciół''. 16.50 Losowanie Toto — Lotka. 17.05 „Tele — Echo''. 18.05 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Szkoła uczuć'' — film franc. odc. I. 21.15 „Włoskie canzony''. 22.10 Informacyjny magazyn sportowy. 23.40 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek 4.III.**
12.45 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec''. 17.30 „Echo stadionu''. 17.55 Warszawskie perspektywy. 18.10 „Oferty''. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Eureka''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Lutowski — „Ostry dyżur''. 21.25 Reportaż. 21.55 Wiadomości sportowe. 22.10 Dziennik. 22.25 Recital altowiolisty Stefana Kamasy.

**Wtorek 5.III.**
6.30 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 8.30 „Siedemnaście mgnień wiosny''— film TV ZSRR (odc. III). 9.40 „Kraj legendarnego raju'' — film dok. bułg. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „W łódzkiej fabryce włókienniczej''. 10.20 „Szkoła uczuć'' — film franc. (kolor) odc. I. 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — B. Brecht — „Matka Courage i jej dzieci''. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.10 Program dnia. 16.15 Magazyn ITP. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: Aktorzy lalkarze przedstawiają: „Zręczne ręce i coś więcej''. 17.05 „Sylwetki X Muzy'' — Zofia Dybowska-Aleksandrowicz. 17.30 Dla młodzieży: „5×5''. 18.00 Dla młodzieży: „Korepetycje muzyczne''. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza 18.45 Program publicystyczny. 19.10 „Przypominamy, radzimy''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Siedemnaście mgnień wiosny'' — film TV ZSRR (odc. III). 21.30 Wiadomości sportowe. 21.35 „Świat i Polska''. 22.20 „Zapraszamy na wtorek — Mieczysław Fogg''. 22.55 Dziennik. 23.05 Kronika Mistrzostw Świata w piłce ręcznej.

**Środa 6.III.**
6.30 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 7.30 „Letnia przygoda'' — film NRD. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Ciśnienie w gazach''. 10.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Życie w Biskupinie''. 10.30 Transmisja z Pucharu Świata w slalomie specjalnym mężczyzn. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 13.55 Transmisja z Pucharu Świata w slalomie specjalnym meżczyzn. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.45 NURT. 16.15 Program dnia. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla młodych widzów: „Latający Holender''. 16.55 Sprawozdanie sportowe: Ruch — Feyenoord (Puchar UEFA). 17.45 Losowanie Małego Lotka. 18.45 Program publicystyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Filmoteka Arcydzieł: „Siódma pieczęć'' — film fab. szwedzki. 21.55 Wiadomości sportowe. 22.00 „Śpiewa Danyel Gerard''. 22.35 Dziennik. 22.50 Kronika Pucharu Świata z Zakopanego i kronika Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie.

**Czwartek 7.III.**
6.30 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 8.45 „Sprawa Lizy Murnau'' — film fab. NRD. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Polskie żagle nad Bałtykiem''. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — E. Orzeszkowa „ABC''. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — St. Żeromski — „Siłaczka''. 12.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Bertold Brecht''. 13.25 TV Kurs Informatyki: Przygotowanie kadr. 13.55 TV Kurs Rolniczy: Zoologia. 14.30 TV Kurs Rolniczy: Botanika. 15.05 Matematyka w szkole: Dzielenie w zakresie 30. 15.45 Program dnia. 15.50 Kronika Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie. 16.20 PKF. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem''. 17.45 „Ludzie nauki''. 18.15 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.35 „Dziś — buraz mózgów'' — program publ. 19.15 „Przypominamy, radzimy''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Sensacji: J. Mc Kee — „Śmierć w najszczęśliwszym dniu''. 21.20 Wiadomości sportowe. 21.30 „Ole! śpiewa Conchita''. 21.50 Magazyn ITP. 22.05 Dziennik. 22.20 Kronika Mistrzostw Świata w piłce ręcznej i kronika Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie.

**Piątek 8.III.**
6.30 TV Kurs Rolniczy: Zoologia. 7.00 TV Kurs Rolniczy: Botanika. 8.50 „Szeryf'' — film USA („Człowiek z Nevady''). 9.20 „Śmiali ludzie'' — film fab. radz. 10.50 „Zabytki Bukaresztu''. 11.05 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wychowanie techniczne — „Łączność przewodowa''. 12.00 Dla szkół (kl. VIII i I lic.) Przysposobienie obronne — „Pierwsza pomoc sanitarna''. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.10 Kronika Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.45 Program dnia. 15.50 NURT. 16.20 Program I proponuje. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora''. 17.20 „Wychowanie fizyczne receptą na zdrowie''. 17.45 Tygodnik Informacyjny Młodych. 18.00 Dla młodzieży: „Dwie szkoły'' — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Koncert dla jednej pani''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Szeryf'' — film („Człowiek z Nevady''). 20.45 „Panorama''. 21.25 Wiadomości sportowe. 21.35 „Nie znamy się, ale...'' — film ang. („Love story''). 22.25 Dziennik. 22.40 Kronika Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie.

**Sobota 9.III.**
6.30 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 8.50 „Brylanty pani Zuzy'' — film fab. pol. 10.10 „Józef'' — film („Rodzina Straussów'') odc. V. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Rada Wzajemnej Pomocy Gospodarczej''. 12.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 12.50 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.20 Program dnia. 13.25 Redakcja Szkolna zapowiada. 13.35 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy. 15.00 Kronika Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie. 15.30 TV Informator Wydawniczy. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci: „Sobótka''. 16.40 Dla młodzieży: Korepetycje plastyczne. 17.05 „Nie tylko dla pań''. 17.30 „Pegaz''. 18.00 Halowe mistrzostwa Europy w lekkoatletyce. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Józef'' — film („Rodzina Straussów'') odc. V. 21.10 Dziennik. 21.30 Wiadomości sportowe. 21.40 „Brylanty pani Zuzy'' — film fab. pol. 23.20 Sportowy magazyn sprawozdawczy.




**Piątek, 1 marca**
8.00 Spektakl TV. 15.25 Program dnia. 16.00 Panorama nowin. 16.15 Film animowany. 16.30 Kompozytorzy — dzieciom. 18.00 Transmisja sportowa. 18.25 Chór Północny. 19.00 Czas. 19.30 Wieczór humoru.

**Sobota, 2 marca**
7.00 Program dnia. 7.30 Dla dzieci. 8.00 Koncert. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.00 Mozaika muzyczna. 10.20 Almanach filmowy. 10.40 Film fab. 16.00 Panorama nowin. 16.10 Kompozytorzy — dzieciom. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.55 Program sportowy.

**Niedziela, 3 marca**
7.00 Program dnia. 10.00 Kiosk muzyczny. 11.30 Film fab. 13.10 Transmisja sportowa. 13.45 Panorama międzynarodowa. 14.15 Kompozytorzy — dzieciom. 15.00 Film dokument. 16.15 Filmy animowane. 16.45 Klub filmowy. 17.40 Spektakl TV. 19.00 Czas. 20.30 Program sportowy.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 182


* * *

ВАСІЛЬ КАЧНОЎ — арыгінальная літаратурная з'ява. Нарадзіўся ў 1932 годзе ў Калінінскай вобласці ў СССР. Пасля заканчэння Маскоўскага універсітэта імя Ламаносава працаваў у Зауралі. У 1960 годзе па сямейных прычынах прыехаў у Польшчу і пасяліўся ў Лодзі. Зараз працуе ў Лодзінскім універсітэце.

Як паэт Качноў дэбютаваў у СССР, аднак яго літаратурны талент развіўся ў Польшчы. Качноў піша па-руску і па-польску. Перакладае таксама на рускую і польскую мовы. Яго вершы-пераклады былі апублікаваны часопісамі „Одглосы", „Пшыязнь", „Тыгоднік культуральны" і многімі савецкімі перыёдыкамі. Качноў выдаў зборнік рускіх вершаў „Первый дождь" і зборнік польскіх вершаў „Мушля". Ён таксама напісаў песню Марусі да вядомага польскага фільма „Чатыры танкісты і сабака".

Качноў — дасканалы перакладчык беларускай паэзіі. Перакладаў ён на рускую і польскую мовы вершы Купалы, Танка і беларускіх паэтаў.

Прапануем чытачам „Нівы" некалькі вершаў Качнова — шчырага сябра беларускай літаратуры.



## ПРАБУДЖЭННЕ

Праз сад, агарод набліжаецца дзень,
Фіялетавы бэз яму рукі закрыў...
Адкрыў домік акно, каб на дзень паглядзець,
І хлынуў у дом фіялету парыў.

На промні павіс серабрысты жаўрук,
І неба мелодыяй згоды цвіце,
І песня плыве з музыкантавых рук
У струмені святла, у галіны і ў бэз.

Пчала паплыла у паводцы вятроў
Праз сонечны сад у далёкі блакіт,
Да далёкіх далін, да далёкіх бяроз,
Да пахучай травы — мёданоснай ракі.

Зоркі росаў цалуюць задуманы бэз,
І акно у любоў цёплы ранак адкрыў.
У сэрца бэз з сонцам і ранкам залез,
Фіялетам гарыць і блакітам гарыць.

## ТЫ, ЦІ НЕ ТЫ?

*Непрыкметная ільдзіна —*
*сасулька*
*павісла,*
*ушчарэпіўшыся*
*пазногцямі ў шыю.*
*Таямнічая —*
*насмешліва спявала*
*аб кветках веснавых,*
*а холад ішоў ад яе.*
*Прыгнятаючая —*
*каталася па сэрцы,*
*застыўшым ад болю —*
*з раны кроў плыла.*
*Марозная —*
*халадзіла душы людскія.*
*Але прыгожая —*
*можна табой любавацца!*
*. . . . . . . . . .*
*Добрая ты, ці нядобрая?*

**Ніна Гаўрылюк**

*ПЕСНЯ МАРУСІ З ФІЛЬМА „ЧАТЫРЫ ТАНКІСТЫ І САБАКА"*

*Дык нічога, што цяжкі наш лёс,*
*Пад абстрэлам ўстаю ў поўны рост.*
*Цішыня на вайне валіць з ног,*
*Нібы тысячы пройдзеных вёрст.*

*Цішыня на вайне — рэдкі госць.*
*Пыл дарожны цалуе браню,*
*У танкістаў сябры мае ёсць —*
*І да іх я сягоння іду.*

*Яны заўжды руку пададуць,*
*І з агню, і з халоднай вады.*
*У бяспечны куток завядуць*
*І уволяць ад жорсткай бяды.*

*А які ж у хлапцоў камандзір —*
*Хіба лепшага мне не знайсці —*
*Вось з такім паміж танкаў хадзіць*
*І памарыць аб шчасным жыцці.*

## ПЛЫТАГОНЫ

Мы плытагоны — багі вадзяных прастораў.
Рэкі — наша калыска і наша магіла,
З іх выпілі радасць і выпілі гора —
З вады наша слабасць, з вады наша сіла.

Нашы плыты, як масты, пазрываны паводкай,
Праз зялёныя травы лугоў наваколля,
Праз вільготны імглы белагрывыя матак
Плывуць праз раку — праз шырокую долю.

А на беразе дрэвы, як цэрквы-распяцці,
А на дне патануўшыя зоркі і месяц,
І вада, і вада, як бяда і багацце,
Як крыніца адвечная руху на свеце.

О краіна! О Русь! Твае рэкі — бунтарнасць.
Хто труслівы душой, хай адыдзе ад водаў
Мы у бездань укінулі ўсякую марнасць
І з вады узялі і любоў і свабоду.

**Інфармацыя і пераклад вершаў А. Барскага**



**(ПО ПРОЧЫТАНЮ ВЕРША НАТАШЫ „ЯКІ ТЫ" „НІВА" № 5 1973 года)**

ты
як лонка
— чэшу твоіэ
зэлёны волосы
ты
як дошч
цылую твоіэ слёзы
ты
як віетёр
— допну собіе крыла
эліпсы очі
труйконт носа
простоконт губ
одцінкі волосуов
валяюцьця
на руках на свэтрах
пуод столом
пуод луожком

скуоль ты выдумаў
прыходіті
в кубістычных рысунках

то моіэ карткі
муой карандаш
і коб ногі
твэі тут нэ было

ты е
кім ты е.

**Зося Сачко**



* * *

Не скавычу: кахай мяне,
валошкавокая.
Я ўжо, кажуць, стары,
раблюся п'яніцай.
Толькі не глядзі з пагардаю,
звысока,
пры спатканні на вуліцы ранніцай.
Ты ж не пыхлівая,
я ведаю!
Не дрэнная!
У дрэнных душ
няма валошкавых акон,
з якіх
чар нашых палёў выглядае...
Ты ўсміхніся хоць разок
ціцком.
Або хоць добрым позіркам
кінь на мяне, як маці.
А я
злаўлю твой чар і панясу.
Нічога ты
з яго не страціш,
хоць я ўвесь дзень
буду насіць твой чар, красу.

**Алесь Свісёк**



## АДНО ІМГНЕННЕ

моцна забалела
думала
лізну неба
да жывога
сказаць каму
— не паверыць
па мінуце
— мне не верыцца
а забалела
думала
лізну неба
памылка?
так памылкі бачым мы
але запозна
не паправіць іх.

**Ірэна Баравік**

## ПАЭЗІЯ

*Паэзія —*
*хлеб, які вечна нас жывіць,*
*хлеб, які змяняецца ў сілу.*

*Паэзія —*
*магутнасці чалавечай частка,*
*ў пачуцці павялічаная.*

*Паэзія —*
*безупыннае за жыццё маленне,*
*змаганне за бессмяротнасць*
*чалавецтва.*

*Паэзія —*
*барацьба чалавека за існаванне.*

**Юрка Баена**



* * *

У летняй спякоце,
ў асенняй галузе,
зімою пад лёдам,
як збуджаны нервы,
бяжыць спачувальна
рака па лузе
і поіць
і корміць
сухія карэнні.

А з боку —
крыніцы вядзёрка вады.
Над мулам
фантанчык б'ецца
моцна.
Вясною
дзяўчаты прыходзяць сюды
аддаваць
сваё дзявоцтва.

**Ян Чыквін**





## ЮНАЦТВА

Пазней радзіцца давялося мне,
З праўдзівым болем не прыйшлося знацца,
Біўся ў апошняй бацька мой вайне,
Каб мне дарыць шчаслівае юнацтва.

Ён можа ўсё яшчэ раз паўтарыць,
Тых дзён у памяці не здолее ўжо сцерці.
Не давялося мне іх перажыць,
Не давялося бачыць слёз, агню і смерці.

Прайшлі гады і залячылі раны,
Аднак жыве былое хваляванне...
І столькі спраў на штодзень нечаканых,
І столькі ў маладых сваіх перажыванняў...

**Кастусь Бандарук**

Пачатак на стар. 1

# ЛЮДОЎЦЫ

рэдняму ўзроўню іх вёсак. Гэта было першае такое пачынанне ў краіне.

Справы, звязаныя з лозунгам — **1 млн. кароў у 1977 г. у нашым ваяводстве,** разглядаліся ў кожным гуртку. Да канца снежня 1973 г. 8 тыс. членаў ЗСЛ абавязалася ў 1974 г. павялічыць колькасць жывёлы прынамсі на адну штуку. Многія з гаспадароў-людоўцаў увялі спецыялізацыю сельскагаспадарчай прадукцыі, даючы гэтым прыклад сучаснай гаспадаркі. Члены ЗСЛ часта першыя ў сваіх вёсках арганізоўвалі калектывы раслiннай ці гадаўлянай прадукцыі або супольнага карыстання машынамі. Прыкладам можа быць такі калектыў вырошчвання сельскагаспадарчых культур **з Панятовіч, што ў Сакольскім павеце,** членамі яго з'яўляюцца людоўцы.

Даўно ўжо была звернута вялікая ўвага на правільную гаспадарку кармамі. Ад яе ў будучыні будзе залежыць прагрэс у жывёлагадоўлі. У сувязі з гэтым Ваяводскі камітэт ЗСЛ заклікаў сваіх членаў, каб **у кожнай вёсцы,** у якой дзейнічае гурток ЗСЛ, была створана **прынамсі адна ўзорная паша.** Найактыўней падтрымалі гэтую прапанову людоўцы з Беластоцкага, Граеўскага, Замброўскага, Высокамазавецкага, Элцкага і Сувальскага паветаў.

Вынікамі супольнай працы ваяводскіх камітэтаў ПАРП і ЗСЛ быў аб'яўлены два гады таму назад конкурс **„Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“.** У гэтым годзе людоўцы ўключыліся ў яго вельмі актыўна. Вядома, таксама, што аж 500 ЗСЛ-цаў — гэта кандыдаты на „майстра сельскагаспадарчай прадукцыі“, а 1378 — гэта кандыдаты на званне „Узорны гаспадар“.

Вельмі важнае заданне — стварыць вёску актыўную і арганізаваную. Ёсць шмат прыкладаў, дзе па ініцыятыве членаў ЗСЛ былі ўведзены новыя формы абслугі гаспадароў, якія ўдасканалілі працу, сэканомілі час. Па прапанове ЗСЛ-цаў сяляне ў **Сяклюках і Нурцы Бельскага павету** выбралі ў сваім асяроддзі групу даверaных людзей, якія пасрэднічаюць паміж гаспадарамі і ўстановамі, абслугоўваючымі сельскую гаспадарку. У Нурцы сельгасгурток поўнасцю забяспечвае вёску мінеральнымі ўгнаеннямі проста з вагонаў, а прадстаўнік ГС арганізуе прыём сельскагаспадарчых пладоў і пастаўку сродкаў вытворчасці і будаўнічых матэрыялаў непасрэдна да гаспадароў.

Цяжка апісаць усе справы, якімі займалася зэтэсэлеўская арганізацыя. Шмат з іх датычылася грамадскіх чыноў. Разам з пашырэннем грамадска-эканамічнай дзейнасці ЗСЛ узраслі і ўзрастуць патрабаванні да членаў.

**А. Карпюк**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Адзін з трох наследнікаў прадаў гаспадарку натарыяльным актам. Астатнія наследнікі аб гэтым не ведалі. Ці прыслугоўваюць ім правы да гаспадаркі і якім спосабам яны могуць дабівацца сваіх правоў?

АДКАЗ: Натарыяльны акт ніякіх новых правоў не стварае, і таму не можа шкодзіць нічыім правам, калі прадавец не мае сам уласнасці. Выключэннем з'яўляецца выпадак, калі той, хто не з'яўляецца ўласнікам нерухомай маёмасці, упісаны ў іпатэчную кнігу, а той, хто купляе, не ведае, што прадавец не з'яўляецца ўласнікам. У гэткім выпадку набыўца становіцца ўласнікам нерухомай маёмасці.

Калі нерухомая маёмасць іпатэчнай кнігі не мае, распараджацца ёй могуць толькі ўласнікі. Таму ў даным выпадку астатнія наследнікі, якія не прымалі ўдзелу ў састаўленні натарыяльнага акту куплі-продажу, не трацяць сваёй уласнасці і могуць патрабаваць судом выдання ім гаспадаркі ад яе набыўцы.

Зразумела, яны павінны даказаць свае правы. Такім доказам можа быць толькі рашэнне суда аб сцвярджэнні правоў да спадчыны, якое павінна таксама сцвярджаць, што наследнікам прыслугоўвае права на гаспадарку.

**ЦЁТКА — ЧАСТКА V**

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

З пункту гледжання стылістыкі і ідэйнасці паэзію Цёткі можна было б падзяліць на рэвалюцыйную лірыку і пазітывістычную лірыку. У першай дамінуе дух бунту, рэвалюцыі, непакоры; у другой пануе ідэя згоднай працы, пахвалы роднага пейзажу, падтрымка заможнасці селяніна.

Творчасць Цёткі прайшла выразную ідэйна-стылістычную эвалюцыю. Можна яе паказаць пры дапамозе лініі спаду. У зборніку Цёткі „Хрэст на свабоду“ гарыць агонь рэвалюцыйнага ўздыму. У „Скрыпцы Беларускай“ — бяруць верх больш спакойныя, тыпова пазітывістычныя настроі. Карціна сялянскай працы, жыццё жанчын, прыгажосць роднага пейзажу — вось галоўныя элементы лірыкі, увайшоўшай у гэты зборнік. Апошнія творы Цёткі, асабліва творы празаічныя, сведчаць аб далейшым спадзе высокай эмацыянальнасці і катэгарычнасці. У гэтых апошніх творах ціха гучыць мелодыя асабістай трагедыі, мелодыя хаўтурная. Паралельна з эвалюцыяй ідэй і настрояў адбываецца ў паэзіі Цёткі эвалюцыя стылістыкі і формы твораў. У зборніку „Хрэст на свабоду“ дамінаваў стыль дэкламатарскі, мітынгавы, рашучы. У зборніку „Скрыпка Беларуская“ пераважна стылістыка спакойная і лагодная, часта набліжаецца яна да ідылічнай паэзіі. У апавяданнях даходзіць да голасу выключна суб'ектыўная, настраёва-меланхалійная стылістыка. Індывідуальны настрой, інтымныя перажыванні займаюць тут галоўнае месца і яны акрэсліваюць характар стылістыкі твораў.

Сёння займемся першай катэгорыяй творчасці Цёткі — рэвалюцыйнай лірыкай. Ужо ведаем, што гэты від лірыкі найбольш поўна праявіўся ў зборніку „Хрэст на свабоду“. Радавод зборніка звязаны арганічна з першай рускай рэвалюцыяй. Вершы зборніка — гэта пробы ілюстрацыі рэвалюцыйных падзей, а можа яшчэ часцей ілюстрацыі рэвалюцыйных надзей Цёткі. Рускі гісторык літаратуры Клейнборт, характарызуючы рэвалюцыйную лірыку Цёткі, напісаў: „Митинги, демонстрации, расстрелы, террористические акты — вот чем захвачена Тётка в своих политических стихах“. (Клейнборт. Молодая Белорусь, Минск 1928 г. ст. 256) Рэвалюцыйную рашучасць у паэзіі Цёткі Клейнборт тлумачыць „мужчинским элементом“ у яе псіхалогіі: у гэтым тэзісе Клейнборта праявіўся традыцыйны погляд на жанчыну як на істоту, далёкую ад палітычных эмоцый і рэвалюцыйных страсцей, як на істоту лагодную і ціхую.

Рэвалюцыйнай лірыцы Цёткі прысвячаюць вялікую ўвагу ўсе сучасныя беларускія даследчыкі. Нельга не згадзіцца з іх галоўнымі думкамі, меркаваннямі і сцвярджэннямі. Нельга аднак поўнасцю іх падтрымаць. Досыць цяжка згадзіцца з тым, што Цётка была паслядоўным рэвалюцыянерам і што яе рэвалюцыйныя вершы маюць вялікую літаратурную вартасць.

На нашу думку, Цётка, нягледзячы на свой грамадскі радыкалізм, ніколі не стала рэвалюцыянерам з цвёрда прадуманай сістэмай поглядаў і дзеяння. У яе ідэйнасці многа было элементаў народніцкай ідэалогіі. Калі б хацелі мы акрэсліць ідэалогію Цёткі на падставе яе вершаў, дык маглі б гаварыць таксама аб наяўнасці ў яе светапоглядзе анархічных і дэмагагічных элементаў. Няма аднак сумненняў, што Цётка была рашучым праціўнікам царскай сістэмы і што магла б сказаць у сваёй творчасці кожнае слова, якое толькі, па перакананню паэтэсы, вяло б у напрамку паляпшэння жыцця бедных і вызвалення сваёй бацькаўшчыны.

Што датычыцца вартасці рэвалюцыйнай лірыкі Цёткі, дык трэба сказаць, што лірыка гэта была перш за ўсё дакументам ідэі, пасведчаннем часу, выразам надзеі і ў меншай ступені літаратурнай вартасцю. Сіла слова, а не прыгажосць яго была галоўнай мэтай Цёткі як аўтара рэвалюцыйнай лірыкі. Калектывістычныя ідэі, дынаміка, катэгарычнасць, запал, вера, надзея стварылі спецыфічную атмасферу „буры і націску“ ў рэвалюцыйнай лірыцы паэтэсы. Можам аднак гаварыць аб крыклівасці гэтых вершаў і зрабіць з гэтага закід паэтэсе.



*Дуброва.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

(Працяг са стар. 1)

# З вёскі Чорная ў Еўропу

саставу калектыву па даследаванню метадаў працы. Тады я вымушаны быў прысвоіць навейшыя метады даследавання прадукцыйнасці працы. Пасля прымаў удзел у ажыццяўленні навукова абаснаваных метадаў арганізацыі вытворчасці на многіх прадпрыемствах, між іншым, і на металаапрацоўчай фабрыцы ў Беластоку („Ухвыты“).

У 1966 г. запрапанавалі яму пасаду ў камісіі гаспадарчага планавання пры Радзе Міністраў. Там увайшоў ён у састаў пастаяннай рабочай групы, якая займалася даследаваннем прадукцыйнасці працы ва ўсіх краінах Савета эканамічнай узаемадапамогі (СЭУ).

— Была гэта вельмі цікавая і творчая праца, — сцвярджае наш зямляк. — Перш за ўсё трэба было знайсці і апрацаваць нейкія супольныя нормы ацэнкі прадукцыйнасці працы для ўсіх краін — членаў СЭУ. На гэтай аснове ствараліся прынцыпы міжнароднага падзелу працы ў рамках СЭУ.

У 1971 годзе рабочая група па даследаванню прадукцыйнасці працы закончыла сваю дзейнасць, і ў студзені наступнага года Ул. Годун стаў працаваць у Міністэрстве замежнага гандлю, а яго секцыя якраз ажыццяўляе тавараабмен між ПНР і СССР.

— Таварыш Годун, Вы часта знаходзіліся ў дзелавых паездках, узначальвалі польскія дэлегацыі, бывалі сярод многіх і розных людзей. Як яны адносіліся да Вас?

— Найчасцей добразычліва і па-сяброўску. Цяпер куды б я не паехаў, усюды ў мяне сябры.

Я дзякую за размову і гавару: „Да пабачэння!“

— Але ўжо ў Маскве, куды адпраўляюць мяне на работу ў польскім пасольстве, — адказвае мой гасцінны субяседнік.

**Віктар Рудчык**
фота аўтара

## Людзі добрай работы

# ГЕНАДЗЬ КАРПЮК

Генадзь Карпюк са Страшава Беластоцкага павету вярнуўся на бацькаву гаспадарку адразу пасля заканчэння вучобы ў тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі. Гаспадарка бацькі, вядучага ў ваколіцы, была яму найлепшым прыкладам, як на той жа колькасці і якасці зямельных угоддзяў, што і ў іншых аднавяскоўцаў, атрымоўваць болш збожжа, трымаць больш кароў і свіней, прадаваць больш мяса для дзяржавы, лепш выкарыстоўваць у штодзённай працы сельскагаспадарчыя машыны і апрацоўваць зямлю.

Генадзь Карпюк і яго бацька вядуць 33-гектаравую гаспадарку. Працу аблягчаюць ім уласны трактар „Урсус Ц-25“, сеўнікі, культыватар, бульбакапалка, электрадаілка, прэс да саломы і сена, снопавязалка, абмалотачны агрэгат і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Збожжа, бульбу, малако і іншыя сельскагаспадарчыя прадукты возяць на пункты скупкі ўласным самаходам „Жук“.

Генадзь Карпюк і яго сям'я жывуць разам з бацькамі. Дом абсталяваны пасучаснаму: у ім ёсць ванная, цёплая вада ў кране, тэлевізар, халадзільнік, пралька.

У мінулым годзе Генадзь Карпюк з бацькам пабудавалі вялікую сучасную абору. Намераны яны гадаваць малочных кароў. У апошні час маюць іх 15 штук і каля 30 свіней. Штогод прадаюць дзяржаве не менш 5000 кілаграмаў свініны і ялавічыны.

Генадзь Карпюк атрымлівае 26 цэнтнераў жыта з 1 гектара зямельных угоддзяў, аўса — 30-35 цэнтнераў, бульбы — да 300 цэнтнераў з гектара. Пад пасевы дае ён не менш 160 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 гектар зямельных угоддзяў.

Малады селянін з'яўляецца радным Гарадоцкай гміны. Гэтага прызнання заслужыў спаўна. У блакноце раднага нямала спраў, патрабуючых вырашэння: неабходна задбаць аб лепшым ацяпленні ў зімні перыяд крамаў і злеўняў малака, хутчэй загаспадарыць зямельныя ўгоддзі ПФЗ, рамантаваць мясцовыя дарогі, дапамагчы моладзі, якая застаецца на гаспадарцы бацькоў, і іншыя.

(ця)

## Адгалоскі

### ДАНЫЯ АБ КПЗБ

У штоквартальным часопісе **„З поля валькі“ нр 4 (64)** ад 1973 года змешчан артыкул **„Структура і прафесійна-грамадскі склад КПЗБ на Беласточчыне“,** напісаны Міхасём Насовічам, загадчыкам Рэферата гісторыі партыі Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку.

Апрача дастулных дакументаў, аўтару ўдалося сабраць 260 спецыяльна апрацаваных апытальнікаў, якія былі накіраваны да былых КПЗБ-оўцаў.

КПЗБ ахоплівала сваёй дзейнасцю паветы Сямяціцкі, Бельскі, Гайнаўскі, Беластоцкі ўключна з горадам Беластокам, Сакольскі, Дуброўскі, Сувальскі, Сэйненскі і ўсходнюю частку Аўгустоўскага.

У гадах 1933-34 сядзіба Бельскага раённага камітэта КПЗБ знаходзілася ў вёсцы Крывая. У гадах 1934-37 вёска Паўлы з'яўлялася сядзібай Заблудаўскага раённага камітэта КПЗБ.

Устаноўлена, што ў першай палове трыццатых гадоў дзейнічалі на Беласточчыне 184 ячэйкі КПЗБ. Паводле апублікаванага пры гэтым артыкуле спіска раёнаў і ячэек КПЗБ вынікае, што асабліва многа знаходзілася іх у паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны.

Падлічана, што ў розныя перыяды належалі да КПЗБ 1094 асобы (наконт 150 далейшых асоб няма дастатковых доказаў іх прыналежнасці да партыі). Устаноўлены прозвішчы 12 сакратароў і 30 членаў Акруговага камітэта КПЗБ у Беластоку, а таксама прозвішчы 46 сакратароў і 113 членаў раённых і гарадскіх камітэтаў.

Са справаздач Акруговага камітэта КПЗБ у Беластоку вынікае, што ў 1925 годзе гэта партыя налічвала 180 членаў, у 1930 г. — 220 членаў, а ў 1932 г. — 761 член.

Найбольш шматлікая арганізацыя КПЗБ знаходзілася ў раёне Бельска: партыйныя ячэйкі існавалі тут у 32 вёсках і працавалі ў іх 263 члены партыі. Другой па велічыні арганізацыяй КПЗБ з'яўлялася гарадоцкая. У 22 вёсках каля Гарадка і далей існавалі партыйныя ячэйкі, у якіх было 175 членаў. У Беластоку былі 122 КПЗБ-оўцы, згуртаваныя ў 16 канспіратыўных ячэйках.

Першыя арганізацыі КПЗБ узніклі ў Беластоку, Бельску, Сувалках, Гарадку, Крынках, Заблудаве і Сямяцічах.

У справаздачы Акруговага камітэта КПЗБ за 1932 год указваецца, што на агульную колькасць 761 член — беларусаў было — 561, яўрэяў — 106, палякаў — 90 і немцаў — 4.

Сялян у КПЗБ было 71 працэнт, рабочых 21 працэнт. Была гэта сялянская арганізацыя.

Насовіч публікуе наступныя табліцы: колькасць партыйных ячэек і членаў, праследаванні членаў КПЗБ, далейшы лёс былых членаў КПЗБ, пералік раёнаў і ячэек КПЗБ, пералікі сакратароў і партыйнага актыву.

**„З поля валькі“** з'яўляецца часопісам Інстытута гісторыі польскага рэвалюцыйнага руху і Вышэйшай школы грамадскіх навук пры Цэнтральным Камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

**Сакрат Яновіч**

 

## Беларускія кнігі

У кнігарні „Дом кнігі“ № 8 у Бельску Падляшскім, вул. Міцкевіча 68, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Купала Янка, Паэмы, 1971, стар. 160, цана 3 зл. 50 гр.

У гэты зборнік, які выйшаў у серыі „Школьнай бібліятэкі“, увайшлі паэмы „Курган“, „Бандароўна“, „Магіла льва“, „Безназоўнае“, „Над ракой Арэсай“ і „Тарасова доля“. Уступны артыкул „Паэмы Янкі Купалы“ належыць пяру вядомага сучаснага даследчыка купалаўскай творчасці М. Яроша.

Брыль Янка, Адзін дзень, 1968, стар. 264, цана 4 зл. 50 гр.

Кніга змяшчае апавяданні „Праведнікі і зладзеі“, „Дзічка“, „Сняжок і Волечка“, „Маці“, „Адзін дзень“, „Зялёная школа“ і іншыя, аповесць „Сірочы хлеб“ і нарыс „Сэрца камуніста“. Выданне адрасуецца для школьнай моладзі.

Барадулін Рыгор, Адам і Ева, 1968, стар. 256, цана 9 зл. 10 гр.

Зборнік складаецца з лепшых вершаў і паэм аўтара, які належыць да сярэдняга пакалення. Цікавыя тэмы, каларытныя вобразы і спробы новых форм версіфікацыі — гэта адметныя рысы творчасці Р. Барадуліна.

Літаратурная Беласточчына, 1973, стар. 120, цана 5 зл. 20 гр.

Зборнік вершаў і апавяданняў літаратараў Беласточчыны, якія пішуць пабеларуску і гуртуюцца ў аб'яднанні „Белавежа“ пры ГП БГКТ і „Ніве“. У гэтым элегантна выдадзеным у Мінску невялікім зборнічку змешчаны творы 16 аўтараў.

Кнігарня ў Бельску Падляшскім ахвотна высылае кнігі за паштовым заліччэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: Bielsk Podlaski, 17-100, ul. Mickiewicza 68, „Dom Książki” Nr 8, woj. białostockie.

(мг)

## ФАЛЬКЛОР

107

СЯМЕЙНАЯ




*З тамтэй строны сонцэ сходіт,*
*А з другой заходіт.*
*А жанаты да дзеўчыны*
*Што вечара ходзіт.*
*А жанаты да дзеўчыны*
*Што вечара ходзіт.*
*Ой, прыйшоў ён пад акенко:*
*— Выйдзі, маё сэрцо!*
*Яна яму адвеціла:*
*— Забі жонку першу!*
*Яна яму адвеціла:*
*— Забі жонку першу!*
*Ой, прыйшоў ён дадоманьку —*
*Пачаў жонку біці.*
*— Ой, даволі, мая міла,*
*Мне з табою жыці.*
*— Ой, даволі, мая міла,*
*Мне з табою жыці.*

*— Ах, мой жа ж ты, наймілейшы,*
*Дай да радні знаці.*
*Каб прыехаў ацец, матка*
*Смерці паглядзеці.*
*Каб прыехаў ацец, матка*
*Смерці паглядзеці.*
*Прыехаў ацец, матка,*
*Сталі пад акенко:*
*Ляжыт дзіця на сход сонца*
*Лічком белюсенько.*
*Ляжыт дзіця на сход сонца*
*Лічком белюсенько.*
*— Ах, моя ж ты, наймілейша,*
*Чым ты правініласа?*
*Сваю нову святлічаньку*
*Слёзкамі абліла.*
*Сваю нову святлічаньку*
*Слёзкамі абліла.*

Ад Варонка Анелі, 75 год, і Варонка Тэафіліі, 75 год, вёска Снічаны, гміна Сідра, Сакольскага павету, запісаў 27 снежня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

## Бурліць культурнае жыццё ў Міхалове

Міхалова ў Беластоцкім павеце — гэта пасёлак з вялікімі традыцыямі тэкстыльнай прамысловасці. Чатыры гады таму назад быў аддадзены тут у карыстанне адрамантаваны дом культуры, у якім знаходзіцца зараз святліца, бібліятэка, клуб „Рух“ і кіно. Прыняў ён назву гміннага цэнтра культуры (ГОК).

Кіраўніку дома культуры Рышарду Варабею, непаседліваму грамадскаму дзеячу, прыйшлося шмат папрацаваць, каб разгарнуць культурную дзейнасць у прыціхшым міхалоўскім асяроддзі. Сваю дзейнасць пачаў ад моладзі. Дапамаглі яму ў гым мясцовыя настаўнікі, а перш за ўсё дырэктар ліцэя Генрык Сакалоўскі. Сёння міхалоўскі дом культуры можа смела пахваліцца шматлікімі дасягненнямі ў галіне распаўсюджвання культуры. Найбольшым зацікаўленнем і прызнаннем мясцовага асяроддзя карыстаецца калектыў песні і танца з цудоўнай капелай, якой кіруюць беластоцкія прафесіяналы: музык Эдуард Гойлік і харэограф Зенон Віткоўскі. Ахвотных паспяваць і патанцаваць тут сабралася не менш 40 асоб.

Добрых вынікаў дабіўся фатаграфічны гурток, якім кіруе Аляксандр Савіцкі, камендант пастарунку міліцыі. Заняў ён першае месца ў павеце. Першае месца заваяваў і гурток жывапісцаў. Высокае прызнанне атрымалі перш за ўсё карціны мастака Тадэуша Кньшэвіцкага.

Кіраўнік ГОК у Міхалове Рышард Варабей уключае здабычны тэлевізар для каляровых тэлеперадач.




Валя Крупіцкая — кіраўнік клуба „Рух“ заўсёды вітае наведвальнікаў вясёлай усмешкай.

„Кадравае“ шчасце мелі аматары самадзейнага руху. Тэатральны гурток пачаў весці сам кіраўнік дома культуры. Цяпер ставіць ён па дзве-тры п'есы ў год. У асноўным беларускія. У мінулым годзе ставілі „Трыбунал“ А. Макаёнка і на павятовым аглядзе тэатральных калектываў у Беластоку занялі трэцяе месца. Міхалоўскія самадзейнікі выступаюць з пастаноўкамі ў навакольных вёсках Страшава, Новая Воля, Ялоўка.

Пры доме культуры дзейнічае дыскусійны фільмовы клуб (ДКФ), які налічвае больш 150 членаў. З'яўляецца ён адзіным вясковым ДКФ у ваяводстве і адным з нешматлікіх у краіне. У рамках ДКФ адбываюцца сустрэчы з вядомымі польскімі рэжысёрамі і акцёрамі, дэманструюцца найбольш каштоўныя фільмы, адбываюцца дыскусіі.

У студзені гэтага года яшчэ адзін поспех акрыліў міхалоўскі ГОК. Каманда хлопцаў: Павел Гутнік (наш малады актыўны карэспандэнт), Марэк Матэйка і Вінцук Былеўскі — перамагла ў чытальніцкім конкурсе і як узнагароду атрымала тэлевізар для каляровых тэлеперадач. Перамаглі яны лепшых з найлепшых у ваяводстве. Здабытак гэты знаходзіцца ў клубе „Рух“. Гэта першы такі тэлевізар у клубе на ўсёй Беласточчыне.

Міхалоўскі ГОК выпрацаваў цікавы мадэль культурнай дзейнасці. Намагаецца ён так арганізоўваць культурныя мерапрыемствы, каб задаволіць усіх: дарослых і маладых. Ужо зараз падрыхтоўвае слоўна-музычны мантаж на 30-годдзе Польскай Народнай Рэспублікі, а таксама рыхтуецца да турніра паміж гмінамі Гарадок — Міхалова. Хоча стварыць ДКФ у ПГР Геранімова і ў клубе селяніна ў Пяньках.

Культурныя дзеячы з Міхалова выкарыстоўваюць усе рэзервы, якія ёсць у іх і вакол іх, не баяцца працы і ініцыятывы.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

## З маёй званіцы

## Кіраўнік

Кожны з нас, сябры, мае сваё начальства. Маю і я кіраўніка. У яго свой кабінет, свая пячатка, некалькі дзяцей і свой аўтарытэт.

Казаў я яму „добры дзень“ — на прывітанне. Часамі здаралася, што адказваў. Пробаваў першы працягваць руку. Бывала, што нават падасць. Пробаваў пытацца пра тыя ці іншыя справы. Часамі дзе што буркне, а часамі і не.

Паступова яго кантакты з працаўнікамі абмежаваліся да аўтарытэтнага маўчання або яшчэ больш аўтарытэтных запісаў у кнізе, якую ў ніякім выпадку не прызначылі для запісвання пахвал... Я цярпеў.

Пайшоў ты к чорту — кінуў я яму калісьці на спатканне. Хацелася, нават цаною буры, разбудзіць у ім чалавечыя пачуцці. Прайшоў побач, не звярнуўшы на мяне ўвагі. Яго аўтарытэт быў непахісны.

Хто сёння без граха? І мне чалавечыя слабасці не чужыя. Можа, і мне ўдасца ўзлезці ўгору па ступеньках каслявай служэбнай драбіны...

З паўлітрам манапалёвай я выбраўся ў катлоўню. Качагар Федзька быў адзінаю асобай на прадпрыемстве, з якой кіраўнік падтрымліваў таварыскія адносіны.

У яго прысутнасці мой шэф, закусіўшы селядцом, трымаў даўжэзныя прамовы, з ім абмяркоўваў важнейшыя службовыя справы і перад ім разгортваў перспектывы на будучыню. Федзьку заўсёды здавалася, што кіраўнік гаворыць мудра. „Ну, бо зразумець з гэтага ўсяго — ні хрэна нельга“. Нягледзячы на тое, што я яшчэ двойчы ў краму збегаў, то больш нічога цікавага на гэту тэму даведацца не даў рады.

У Федзькі, відавочна, былі таксама свае паняцці пра павагу. Рассеўшыся акракам, ён рассякаў паветра мятлою, час ад часу прыгаварваючы: „Я вас навучу. Я вам пакажу. Вы яшчэ Федзькі не ведаеце. Го, го!! У сябе ў катлоўні і Федзька кіраўнік“. Та-а-к! Не прапала дарма навука.

Дзеткі кіраўніка „добры дзень“ таксама не кажуць. Жонка — калі-некалі. А можа гэта якраз спосаб? Можа якасці, неабходныя кіраўніку калектыву, трэба цярпліва прывіваць ад калыскі?

Я вырашыў прыглянуцца да шматабяцаючых „пацех“. Калі не я, дык мае дзеткі, можа, скарыстаюць?

Раскошныя хлапчаняткі гулялі якраз на панадворку.

„Ты пабяжыш па цукеркі! А ты вось пяску навозіш!“ Старэйшы раздзяляў работу. „А ты? „А што я? Я тут кіраўніком, здаецца. А кіраўнік вядома не працуе, а толькі загадвае, што трэба“. Я, здаецца, пачынаў разумець.

Са шкадобаю ўспомніў я яшчэ важнейшага павятовага начальніка. Вечна забеганы-запрацаваны. Безупынна нешта арганізуе. Перад восьмай — ужо заўсёды на рабоце. Выходзіць таксама пунктуальна. Нават у адносінах да супрацоўнікаў непасрэдны, людскі. Выразная тупагаловасць. Зусім, пэўна, бязглузды. Магутныя мусіў, пэўна, мець „плечы“.

А за вакном далей гулялі.

„А ты, шчанюк, выб'еш той дыван, што мне мама казала! А калі не, то я цябе тут зараз... Што, не хочаш? Дык на табе! На табе!“

„Лупі кіраўніка!“ — даняслося раптам з панадворка. Я выглянуў.

Мой Ёзік заўзята малаціў кулакамі і з дакладнасцю добрага бухгалтара разлічваў кіраўніка - „юньёра“ з незаслужаных пабояў.

Малодшая, Анулька, з дзікім піскам учапілася ў чупрынку „намесніка“.

Так, на першы погляд, то тумакоў яны абодвум „кіраўнікам“ не шкадавалі.

Так. Так. Гм-м-м???

**Ларс**





 



БУДАЎНІЧЫЯ ПАРАДЫ

# ХЛЕЎ АГУЛЬНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ

Вось крыху іншы праект інвентарскага будынка, чым той, які мы друкавалі мінулым разам. Яго запраектавалі аж у Шчэціне. Аднак Беластоцкая дырэкцыя вясковага будаўніцтва рашыла, што ён можа быць поўнасцю прыдатны ў Беластоцкім ваяводстве, і таму змясціла яго ў каталогу сельскагаспадарчага будаўніцтва, у Беластоцкім ваяводстве. Рашэнне абаснаванае, у гэтым можна пераканацца, уважна паглядзеўшы на малюнак. Даўжыня будынка 18,5 м, шырыня — 9,5 м. Праектанты прызначаюць яго для 12 кароў, а ў тым ліку для цялят і яловак, ды яшчэ пакідаюць месца для двух коней. Паводле іх гэта свабодны, праездны будынак, без пограба, з паддашшам, прызначаным на склад корму.

Сялянам, якія спецыялізуюцца ў гадоўлі кароў, раім сціпла трымацца праекту, які прадбачвае склад для кармоў, злеўню малака, а для абслугоўвання жывёлы — стальныя карыты для кароў і коней і драўляныя — для цялят і яловак.

Аднак можна яго загаспадарыць зусім інакш, у залежнасці ад сапраўдных патрэб гаспадара. Для прыкладу, адну частку можна прызначыць для свіней, а ў другой размясціць кароў і каня. У гэтым выпадку будынак добра было б перабудаваць з „глыбокага“ на „плыткі“. Дзеля гэтага трэба зрабіць цэментную, або нейкую іншую падлогу, памятаючы аб адпаведным нахіле, каб лягчэй было праводзіць ачыстку будынка ад гною. Для гэтага праектанты раяць прымяніць ручныя або механічныя шуфлі.

Канструкцыя гэтага будынка традыцыйная. Фундаменты з бетону, запраўленага жвірам, сцены — хто з чаго хоча і можа: з пустакоў тыпу „альфа“ або нейкай цэглы. Між цэглай можна засыпаць жужаль.

Іншыя канструкцыйныя падрабязнасці зацікаўленыя знойдуць у праекце. Яго сімвал ZBŁ-7.

М. Нурэцкі







PROGRAM UZYTKOWY

| | |
|---|---|
| 1. POMIESZCZENIE DLA INWENTARZA | 120,39 m² |
| 2. PASZARNIA (Z CZĘŚCIĄ KOMUNIK.) | 21,36 m² |
| 3. ZLEWNIA MLEKA (PARNIK) | 8,45 m² |
| 4. MAGAZYN PASZ TREŚCIWYCH | 4,25 m² |
| MAGAZYN PASZ OBJĘTOŚCIOWYCH (PODDASZE) | 162,00 m² |




## КАСЦЮМЫ



І так прыйшоў сакавік. Ходзім яшчэ, праўда, у паліто, але ўжо неўзабаве можна будзе апрануць лёгкі, веснавы касцюм. Касцюм, як вядома, з'яўляецца падставовай часткай веснавой вопраткі. У нашым клімаце носяць яго ад вясны да восені. Дастаткова мець дзве-тры блузачкі — ад спартыўнай да выхадной, каб адзін і той жа касцюм выглядаў за кожным разам інакш. Матэрыял неабавязкова павінен быць надта дарагі.

Галоўнае ў касцюме цяпер, каб спаднічка была пашыраная ўнізе. Такая лінія будзе карыснай нават для паўнейшых жанчын.

Жакеты могуць быць як доўгія, так і кароткія. Доўгія жакеты можна насіць як з поясам, так і без яго.

Касцюмы з кароткімі жакетамі раім шыць малодшым жанчынам, якія могуць насіць іх з усё яшчэ моднымі доўгімі штанамі. А можа варта было б адразу пашыць камплект з трох частак: жакет, спаднічку і штаны?!

Калі мы збіраемся шыць новы касцюм, варта адразу прадумаць, з якога матэрыялу яго зрабіць. Калі мы хочам мець спартыўны, дык варта купіць нейкі таўсцейшы ваўняны матэрыял ці твід. Калі мы хочам зрабіць выхадны касцюм, то найлепш было б зрабіць касцюм з гладкай ваўнянай тканіны ці эланы.

Што датычыцца фасону, дык не варта рабіць супермодны, хіба што маем ужо ў гардэробе прынамсі адзін добры „спакойны“ касцюм універсальнага характару. Лепш зрабіць касцюм просты, спартыўны, які будзе доўга модны.

Сяброўка






„Не, тут нешта не так, — думаў Глебаў, вяртаючыся ад Вышаслаўскага, — усё значна складаней, чым уяўляе стары. А што калі пагаварыць са Стасяй?“

Ён успомніў яе шырока раскрытыя радасныя вочы, крыху збянтэжаныя вочы. „Добрая паненка“, — нечакана падумаў ён, — і адразу прывычна і балюча заныла ў грудзях. Прыгадаўся працяты марозам Ленінград, дзіцячыя санкі з трупамі, замеценыя снегам трамваі, іней у кутках у апусцелай кватэры. Дзе пахавалі бацькоў — ён так і не даведаўся, напэўна на Піскароўскіх могілках у брацкай магіле. Магілу Ліды паказаў яму яе брат, марак з крэйсера „Кіраў“. У Ліды былі такія ж светлыя валасы, як у Стасі.

Капітан вярнуўся на заставу расстроены і на пытанне Лузана, што здарылася, расказаў аб наведанні ім Вышаслаўскіх, змаўчаўшы толькі пра свае ўспаміны.

А на другі дзень Лузан з'явіўся на заставе ў суправаджэнні Стасі. Абое неслі вязанкі кніг.

— Гэта даведнікі, падручнікі па гісторыі, мастацкая літаратура. — Ён паказаў на Стасю: — Мая настаўніца польскай мовы.

Глебаў неадабральна паглядзеў на свайго намесніка і падумаў: „Карысны гэта занятак, Пётр Пятровіч, але не да часу. Тут галава круціцца, справы дрэнь, а ён — падручнікі“.

Не было б Стасі, Глебаў выказаў бы ўсё гэта ўголас.

Але Лузан зразумеў начальніка без слоў.

— Палкоўнік Шпакаў абяцаў у наступны прыезд прыняць у нас экзамен па гісторыі Польшчы і па мове. Так што трэба рыхтавацца, таварыш капітан.

Стася працягнула яму тоненькую кніжачку ў сінім пераплёце.

— Гэта вам, пан капітан, падарунак.

Глебаў пагартаў кніжачку, не ведаючы, як паставіцца да нечаканага падарунку.

— Гэта Адам Міцкевіч, рэдкае выданне, прошэ пана.

Дзяўчына ўмольна глядзела на Глебава.

— Дзенькую, Стася, — падзякаваў ён і паціснуў маленькую, цёплую далонь дзяўчыны.

— Ну вось, цяпер у цябе будзе два вучні, Стася, — усміхнуўся ёй Лузан. — Справішся?

— Так, так, — паспешна і радасна адказала дзяўчына, пранікліва пазіраючы на Глебава.

— Тады заўтра ж і пачнем. Мы прыйдзем да вас, бацька не прагоніць?

— Не, не, ён добры.

— Ці не лішняе ўсё гэта, Пётр Пятровіч? — спытаў капітан, як толькі Стася пайшла.

— Па майму разуменню, веды ніколі не бываюць лішнімі.

— Ну, добра, а Стася навошта? Мы і самі маглі б займацца.

— Лузан уздыхнуў.

— Што тут зробіш... Карацей кажучы, падабаецеся ёй вы.

— Я? — здзівіўся Глебаў і адразу спахмурнеў. — Ведаеце, Пётр Пятровіч, мне цяпер не да жартаў.

— А я і не жартую.

— Ну, добра. З чаго вы гэта ўзялі? Яна сказала вам?

— Я па вачах бачу. У сямнаццаць гадоў вочы яшчэ не могуць нічога таіць, а тым больш пачуццё.

— Ну, няхай будзе так, хоць я ў гэтым моцна сумняваюся. Няхай. А што далей? Што з гэтага выйдзе?

— Пакуль яшчэ не ведаю. Стася разумная, начытаная дзяўчына. Вучылася ў Варшаве, потым многа займалася самастойна, добра ведае літаратуру, гісторыю, рускую мову. Мне яна шмат расказала цікавага пра Польшчу, пра Кудароўшчыну, пра Астроўскія лясы. Але з кім Стася, на чыім яна баку — гэта пакуль няясна. Бацька кулак, адзін брат у Войску польскім, разам з нашай арміяй вызваляе Польшчу, а другі невядома дзе, магчыма, на супрацьлеглым баку, — ваюе супраць нас і свайго брата. Мне здаецца, Стася магла б нам дапамагчы тое-сёе прасвятліць у гэтых адносінах.

— Значыць, трэба пазаляцацца да Стасі, так сказаць, у аператыўных мэтах. З яе дапамогай паспрабаваць выйсці, магчыма, на банду, а там і на след дыверсантаў напасці. Я правільна вас зразумеў, Пётр Пятровіч?

— Ну, навошта гэтак груба і прасталінійна, — паморшчыўся Лузан. — Я вас не пазнаю, таварыш капітан.

Лузан узлаваўся не на жарт, што з ім здаралася вельмі рэдка. Ён раскурыў люльку і так задыміў ёю, быццам хацеў узняць дымавую заслону. Глебаў чакаў, пакуль ён супакоіцца.

— У дзяўчыны да вас добрае жаночае пачуццё, — нарэшце загаварыў зампаліт, перастаўшы дыміць. — Вы лічыце, што не здолееце адказаць ёй узаемнасцю. Добра. Разумею. Але можна ж не адштурхоўваць яе і беражліва аднесціся да яе пачуццяў і самой. Ды і гэта... Чаму вы думаеце, што Стасі самой не спатрэбіцца ваша дапамога? Палкоўнік Шпакаў гаварыў: трэба тут мець больш сяброў і дапамагаць ім.

— Зразумела, Пётр Пятровіч, — прымірэнча ўсміхнуўся Глебаў. — Я і сам думаў пагаварыць са Стасяй. Але пасля таго, што вы мне сказалі... словам, складана ўсё гэта, Пётр Пятровіч...

— Гэта жыццё, а яно — штука не простая.

— Дарэчы, Пётр Пятровіч, — перапыніў Глебаў не зусім лёгкую для яго размову, — са штаба перадалі: на развілцы, дзе наш КПП, выстаўляецца пост рэгуліроўшчыкаў руху. Напэўна узмоцніцца перакідка войск па шашы, а гэта актывізуе дыверсантаў. Давайце падумаем, што нам зрабіць у сувязі з гэтым.

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Што чуваць у сельскагаспадарчым гуртку ў Кожыне?

Наша вёска раздзяляецца на дзве вёскі — Кожына Вялікае і Кожына Малое і налічвае 110 гаспадароў.

У вёсцы ёсць сельскагаспадарчы гурток, у распараджэнні якога 8 трактароў. Усіх працаўнікоў у сельгасгуртку 12. Пастаянным трактарыстам у гуртку з'яўляецца Андрэй Тынявіцкі, іншыя трактарысты не з'яўляюцца пастаяннымі працаўнікамі.

У час жніва два трактарысты з нашага сельгасгуртка атрымалі дыпломы і грашовыя ўзнагароды (па 2 тыс. зл.). За добрыя вынікі ў жніўных працах узнагароджаны былі Андрэй Тынявіцкі і Васіль Паплаўскі. Павятовы саюз сельгасгурткоў у Бельску абодвух іх запрасіў на Цэнтральныя дажынкі ў Беластоку.

Прэзасам кожынскага сельгасгуртка з'яўляецца Мікалай Раманюк. Ён таксама вельмі задаволены быў поспехамі сваіх трактарыстаў і заваяваным імі другім месцам у павеце. Наш сельгасгурток абслугоўвае тры вёскі: Пілікі, Ступнікі і Кожына. Прыходзяць аднак за дапамогай і людзі з іншых вёсак: Гукавіч, Ляхаў, Плёскаў і Козлікаў. Калі трактары вольныя, наш гурток памагае і гэтым вёскам.

На гадавым справаздачным сходзе гуртка быў зачытаны баланс за 1973 год. У канцы мінулага года гурток купіў заменныя часткі для машын на суму 94 тыс. зл. За 1973 год гурток меў надвышку 10 тыс. зл. На тым жа сходзе была прынята пастанова павысіць падвышку ў 1974 годзе, бо трэба купіць новыя машыны — трактары, сеўнікі, зграбяркі, рвачкі для ільну і г.д. Сход прыняў таксама новых гаспадароў у члены сельгасгуртка ў Кожыне.

**Т. Ю.**

## Жаночы гурток у Тапалянах

У гуртку вясковых гаспадынь у Тапалянах 25 жанчын. Кожнай з іх гарантуецца права да куплі куранят. Многія жанчыны бяруць па 50 і больш штук.

У студзені гэтага года на пасяджэнні тапалянскага КГВ пастанавілі арганізаваць курс крою і шыцця. Распачаўся ён згодна з планам 20 студзеня. Жанчыны атрымалі з курсу дзве карысці: першая — навучыліся добраму рамяству, другая — цяпер не патрабуюць бегаць і шукаць краўчыхі, бо шыюць самі. ГС і спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Міхалове памаглі жанчынам аплаціць курс. Толькі невялікую частку грашыма ўнеслі самі жанчыны.

**Мікола Краўчук,**
Патока




## Я рашыў

**(У справе гультаёў і абібокаў)**

Вось знайшоўся Дзядзька Квас,
Што ачэрнівае нас.
Сёння кожны ў горад едзе,
Каб вучыцца ў школе недзе.
Хуліган, ці абібок
Не паедзе ў Беласток!
Тут не месца для такіх,
Бо хапае гарадскіх.
Падыдзіце вы пад кіёсак,
Паглядзіце, хто ж там з вёсак?
Той, хто любіць вёску, поле,
То вяртаецца па школе.
Ён аб свеце многа знае,
Бацьку роднага не надувае.
Гэтакі не хуліганіць,
А ўмела гаспадарыць.
Ён не цягнецца да піва —
Мае сваё хоббі — „Ніва",
А да Кваса крыўду мае,
Што яго не паважае.

**Ян Мордань,**
Беласток

ЦІ ВЫ ЎЖО ВЫПІСАЛІ „НІВУ"?

## Пагасла апошняя нафтавая лямпа

Закончылася доўгае чаканне электрычнага святла ў вёсках Саснавік і Слойка Шудзялаўскай гміны. У канцы мінулага года засвяціліся тут лямпачкі. Людзі ўздыхнулі з палёгкай. Вельмі ж чакалі гэтага моманту.

Людзі ў Слойцы і Саснавіку пакуплялі ўжо раней тэлевізары і электрычныя маторы. У Шудзялаўскай гміне няма ўжо цяпер ніводнай вёскі, дзе б не было электрычнага святла. Споўніліся ленінскія думкі аб ролі электрычнасці. І праўда, што цяпер

*Электрычнасцю і парай*
*Жнуць, і косяць, і куюць.*
*Хутка думаць не мазгамі —*
*Электрычнасцю пачнуць.*

**Т. К.**

## Цікавыя сустрэчы

У агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове адбываюцца сустрэчы, прызначаныя для матурыстаў. Справа ў тым, каб пазнаёміць моладзь з правіламі паступлення ў вышэйшыя школы. Былі ўжо ў ліцэі прадстаўнікі вайсковых школ, якія расказалі, як можна паступіць у вышэйшыя вайсковыя школы. Быў таксама прадстаўнік Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.

Гэтыя сустрэчы вельмі цікавыя і карысныя. Памагаюць выбраць адпаведны для кожнага напрамак вучобы.

**Павел Гутнік**

## БРЫДКА!

На прыпынку ПКС у Дубічах Царкоўных немагчыма схавацца ад снегу ці дажджу. Лепш змерзнуць, чым увайсці ў пачакальню, дзе чалавеку дрэнна робіцца. Аж сорамна казаць, якая прычына гэтаму. Кажуць, што гэта работа дзяцей. Дык дзе ж тады бацькі тых дзяцей, што робяць дрэнна? Ці не могуць навучыць сваіх дзяцей культуры? Падумаць толькі, Дубічы — гміна, а такі сорам людзі на сябе сцягваюць.

**М. Панфілюк**




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Забыла карова, як была цялём. Гэтакую пагаворку-прыказку я прыводжу да артыкула ў „Ніве" № 6 ад 10 лютага пад загалоўкам „Сардэчныя тайны". Жанчына, падпісаўшаяся „Няшчасная", слёзна скардзіцца, што яе цёшча дакучае ёй тым, што яна была вывезена прымусова на работу ў Германію. Ніхто з маладых дзяўчат ці хлопцаў не ехаў туды з ахвотай. Чакала іх там цяжкая праца на карысць ворага і цяжэйшыя ўмовы штодзённага галоднага жыцця. Шмат такіх дзяўчат і хлопцаў страцілі жыццё ў Германіі падчас найстрашнейшай вайны, а тыя, што засталіся ў жывых, усімі сіламі імкнуліся вярнуцца да сваіх бацькоў у сваю родную вёску. І іх не толькі не папракалі, але стараліся асабліва ўшанаваць, бо яны былі на катаржнай рабоце пад прымусам гітлераўцаў-фашыстаў. Цёшча не мае ніякага права дакучаць сваёй нявестцы пабытам у Германіі. Хацелася б задаць ёй пытанне, чаму гэта яна не захацела дабравольна паехаць на работу да ворага, калі там было так соладка, што можна гэтым папікаць аж на працягу 30 год?! Можна думаць, што цёшча не мае лепшай работы на гаспадарцы, не імкнецца да ладу і парадку ў хаце і сям'і, а ўсе вольныя хвіліны выкарыстоўвае на сварку. А магла ж бы яна, напрыклад, заняцца гадоўляй свіней, цялят ці курэй, і напэўна гаспадарка і дом мелі б больш даходу і карысці. Цёшча павінна ўспомніць, што і яна калісьці была нявесткай у сваёй цёшчы. І ці ж ёй было тады прыемна слухаць дакучлівыя сваркі? Але, як кажуць, забыла карова, як была цялём. Варта, каб яна аб гэтым успомніла.

**Нестар Перавой**
**з Бельска**

Нічога не дадасі.

**„Сэрцайка"**

## Варта браць прыклад

Два месяцы ўжо працуе кіраўніком клуба „Міленіум" у раёне „Тысячагоддзя" ў Беластоку Валя Пшылажынская. За гэты час дабілася яна добрых вынікаў. Узнавіў сваю дзейнасць гурток ЗСМВ, і шпарка пайшла праца ў самім клубе.

Цяпер у нашым раёне заўсёды дзеецца нешта цікавае. У клуб заходзяць артысты з Варшавы і Беластока, журналісты з газет, радыё і тэлебачання. Новы кіраўнік запрашае ў клуб і наймалодшых. У апошні час арганізавала Валя карнавальны баль для наймалодшых. Выступаў лялькавы тэатр пад кіраўніцтвам Ірэны Шэшка з пачатковай школы № 6, выступала музычная група, якая працуе пры БСМ у Беластоку, выступалі вучаніцы з ліцэя выхавацельніц прадшколля. Яны вялі гульні для дзяцей, арганізоўвалі конкурсы. Дзіцячы баль фінансавала Беластоцкая жыллёвая спулдзельня.

Будзь такі, як наша Валя Пшылажынская, кіраўнік клуба ўсюды, дык і ўсюды ішла б праца культурна і менш шкод рабілі б дзеці і моладзь на вуліцах і панадворках.

**Васіль Петручук**

## Малочны бар у Бельску

Бар у Бельску Падляшскім на вуліцы Міцкевіча наведвае многа людзей. Не кожны мае столькі грошай, каб абедаць у рэстаране „Падлясянка".

Бар гэты — самаабслуговы, найперш трэба ў касе заплаціць і атрымаць квітанцыю, а потым чакаць у чарзе ля кухні. Самаабслугу мы крыху пераацанілі. Галодны чалавек павінен тут сам падрыхтаваць стол, паднесці талеркі, а часта прасіць у акенцы лыжку ці вілку і доўга чакаць яе. У бары няма ніколі падрыхтаваных шклянак, а нядаўна і нажы сталі тут рэдкім госцем. Каб з'есці, трэба найперш доўга коўзаць катлету па талерцы, каб урэшце адарваць кусок. Пра стравы ў бары няма ўжо што і гаварыць. Бульба недаваранаая, дрэнна абабраная, часам прымёрзшая. Суп бывае зусім без солі.

У бары абедае вельмі многа вучняў. Яны пераважна выпісваюць так званыя „абанементы" — абеды на цэлы месяц. Тады ўжо не трэба стаяць у чарзе да касы. Але бяда тут іншая. Калі кухарка ў добрым настроі, дык пазволіць выбраць на абанемент любую страву. А калі не захоча — не пазволіць. Тады здараецца есці дзень за днём рыбу.

Ужо некалькі разоў з прычыны бруду бар быў закрыты санітарна-эпідэміялагічнай станцыяй. А мо яшчэ разок прыдалася б тут добрая чыстка?

**М. Інфармацкі**

## П'ЯНІЦА

У вёсцы Разваленцы Мост жыў у старэнькай хатцы Антон, чалавек год трыццаці сямі. Была ў яго жонка Анісья і двое дзяцей. Антон жыў бедна. Грошы прапіваў. Людзі лічылі яго найбольшым п'яніцай у вёсцы. Калі не стала ўжо ў яго грошай, пастанавіў ён прадаць карову. У чацвер ранемька паехаў на базар, павёў прадаваць карову. Заехаў Антон на базар, паставіў воз і пачаў таргаваць. Раптам падыходзіць да яго цыган і пытае:

— Колькі за карову?

— Шэсць тысяч, — сказаў, нядоўга думаючы, Антон.

— Задорага, — цыган на тое. — Дам пяць з палавінай, барыш зробім.

— Аддам за пяць семсот, — сказаў Антон.

— Пяць семсот? — падумаў цыган, — трэба купляць.

Цыган даў Антону грошы і сказаў:

— Пачакай крыху, зараз прыйду. Праз паўгадзіны прыходзіць цыган, прыносіць літр гарэлкі, бохан хлеба, дзве банкі кансерваў. Сеў Антон з цыганом на воз і п'юць.

Час ішоў.

— Мне пара дамоў, — сказаў цыган. — Трэба завесці карову.

Антон павярнуў каня і паехаў дамоў п'яны.

Едзе Антон сярэдзінай вуліцы, спявае „Каробушку". Раптам спыняе яго міліцыянер.

— Як едзеце? — пытае строга.— Трыста злотых штрафу.

Антон, доўга не думаючы, выняў грошы з кішэні, заплаціў і паехаў далей. Зрабілася яму дрэнна, круцілася ў галаве. Антон лёг і заснуў. Дарогай ішлі зладзеі, забралі ў яго грошы.

А конь ішоў уперад. Ён добра ведаў дарогу дадому. Толькі на чыгуначным пераездзе ён спыніўся. У той момант на воз наехаў цягнік. Зарэзаў каня і забіў Антона. Так сумна закончыў жыццё п'яніца.

**Васіль Асеннік**
Спічкі

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## У Сухавольцы будзе прыязджаць кіно

**АДКАЗВАЕ:**

**Wojewódzki Zarząd Kin w Białymstoku.**

W związku z pismem Redakcji z dnia 22.I. br. w sprawie dojazdu kina ruchomego do wsi Suchowolce w pow. hajnowskim uprzejmie informujemy, że wymieniona miejscowość została włączona do marszruty kina panoramicznego począwszy od miesiąca lutego br.

**Dyrektor**
**Wojewódzkiego Zarządu Kin**
**w Białymstoku**
**Ireneusz Krcal**

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Sekret" (polski), 5—6. „Gniewna podróż" (NRF), 9—10.

**Кляшчэлі**

„Więzy" (węgierski), 5—6. „Sprawdzono, min nie ma" (jugosł) 7—8. „Po latach" (radz.), 9—10.

**Нараўка**

„Wynajęty człowiek" (USA), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosłowiański), 6—10.

**Нарва**

„Ciepło twoich rąk" (radz.), „Opętanie" (polski), 6—10.

**Чыжы**

„Homolkowie na urlopie" (czeski), „Pokój przechodni" (NRD) 6—10.

**Дубічы Царкоўныя**

„Gracz" (radz.), „Sacco i Wanzetti" (włoski) 6—10.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Hubal" (polski), „Skok o świcie" (radz.), 6—10.

**Райск**

„Odstrzał" (USA), „Motyle" (polski), 6—10.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Zazdrość i medycyna" (polski), 9—10.

**Міхалова**

„Sacco i Vanzetti" (włoski), 5—6. „Układ" (USA), 7—8. „Opętanie" (polski), 9—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Tydzień szaleńców" (rumuński), „Zazdrość i medycyna" (polski), 6—10.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Lucia" (kubański), 5—6. „Pippi w kraju Taka — Tuka" (szwedzki), 7—8. „Pechowy zalotnik" (franc.), 9—10.

**Мілейчыцы**

„Własne zdanie" (bułg.), 5—6. „Serafino" (włoski), 7—8. „Bułeczka" (polski), 9—10.

**Мельнік**

„Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 5—6. „Kanał" (polski), 7—8. „Gra" (polski), 9—10.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7954 O-3

# Новыя павевы

Сядзім. Курым. Расказваем новыя анекдоты. Чакаем.

А дзесятай гадзіне прыходзіць брыгадзір.

— Ну? — пытаем. — Што?

— Нічога, — разводзіць той рукамі і ўладкоўваецца каля нас.

Зноў сядзім. Зноў курым. Расказваем старыя анекдоты. Чакаем. А дванаццатай з'яўляецца майстар.

— Ну? — пытаем. — Што?

— Нічога, — уздыхае ён.

Устаем. Абтрасаем спяцоўкі. Ідзем абедаць.

Па абедзе сядзім. Курым. Абмяркоўваем апошнія падзеі на суседняй будове. Чакаем.

А другой гадзіне прыходзіць выканаўца работ.

— Ну? — пытаем. — Што?

— Нічога, — сціскае плячыма прараб і сядае побач з намі. — Сёння бачыў яго. Малады яшчэ, чарнявы. Кажуць, уваходзіць у курс справы.

— І доўга ўваходзіць будзе? — цікавіцца найбольш нецярплівы сярод нас — Сашка, вучань муляра.

— А ты не спяшайся! — сурова кажа прараб. — Калі ўвойдзе, тады і ўвойдзе. Цябе, у кожным выпадку, пытаць не будзе. Скажа рабіць — рабі, маўчаць — сядзі і не цвіркай.

Мы ківаем галовамі, згаджаючыся з мудрасцю прараба.

— Чаму — сядзі? — не здаецца Сашка. — Цэгла ёсць, гліна ёсць, пагода цудоўная. Можна было б ужо ўсю сцяну вымураваць. А мы сядзім, курым, чагось чакаем. Чаго чакаем?

— А таго! — прараб гасіць недакурак у вядры з вапнам і развальваецца на шчыце апалубкі. — Ты яшчэ малакасос, Сашка, хоць і выгадаваў пяснярскія вусы. На вытворчасці ёсць закон: новае начальства — новыя павевы. Не можам мы без указанняў новага начальства працаваць. Ні па-новаму, ні па-старому. Зробім — а яно не так. Тлумач потым, выслухвай, як цябе ж бацькуюць. А то яшчэ і выганяць за самаўпраўства. Тут важна гэтыя новыя павевы ўлавіць, сарыентавацца, зразумець, што да чаго. Можа, прыспешыць трэба, а мы задніх пасем. Можа, наадварот, трэба на месцы патупаць, а мы наперад рванулі. А можа, і зусім ужо гэтага будынка мураваць не трэба. Тут, Сашка, тонкае разуменне патрэбнае. Дайшло? Вось-вось!

Непадалёк на заводзе гудок апавяшчаў пра заканчэнне рабочай змены. Выкідаем недакуркі, мыем рукі і раз'язджаемся па хатах.

Як і ўчора, і пазаўчора. І месяц таму назад.

З таго часу, як у наша будаўнічае ўпраўленне прыйшоў новы начальнік.

**А. Саленка**

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*

*Канструкцыя для пачынаючых.*

# НІЎКА

— *Відаць, вельмі разумны лектар, не зразумееш, аб чым гаворыць...*

### НАВУЧЫЎСЯ

— Калі хочаш, каб цябе паслухалі, скажы „калі ласка", — павучае маці свайго сына.

— Адчапіся, калі ласка! — адказвае той.

### РАЗМОВА СТУДЭНТАЎ

— **Ну, здаў?**
— **Здаў.**
— **Колькі?**
— **Чатыры.**
— **А чаму не пяць?**
— **Апошняя бутэлька з пабітым рыльцам была.**

## ГУМАР З

### ПРАЎДЗІВЫ АДКАЗ

У адным губернскім горадзе будавалі турму. Інжынер камандуе работнікамі, загадвае. Ішоў адзін селянін, спыніўся, залюбаваўся гэтым домам.

— Барын, для каго вы гэтакі вялікі дом будуеце?

— Для вашага брата!

— Ды куды нам, грэшным! Хоць бы вашаму брату давялося тут пажыць!

## МІНІБАЙКІ

### ПАЛКА

Хто, вядома, чым, а Палка двума канцамі хваліцца.

### ЛЕЎ

Звяры ўдарылі трывогу: Леў устаў на леву нагу.

**Д. Салодкі**

...Ён спакойна можа страціць свой твар. У яго іх некалькі.

...Калі ён дабіўся месца пад сонцам, яно ўжо заходзіла.

### У ЗААПАРКУ

Водзячы экскурсантаў па заапарку, гід падышоў да клеткі з кенгуру.

— А вось перад вамі, — сказаў ён, — прадстаўнік Аўстраліі...

— Не можа быць, — пачуўся голас занепакоенай жанчыны. — Мая ж сястра выйшла замуж за аднаго з іх.

### ЧЫЙ ГОЛАС ЛЕПШЫ?

— Не ведаю, чаму яны робяць столькі шуму з-за голасу міс Сміт. Куды багацейшы голас у міс Джонс.

— Магчыма гэта і так. Толькі ў міс Сміт куды багацейшы бацька.

### АДНААСОБНІК

— Вы былі ўчора на агульным сходзе жыхароў?

— Не, я спаў дома.

### МУЖ ВІНАВАТЫ

Пасля спектакля муж і жонка вяртаюцца дадому ў таксі. Дома жонка накідваецца на мужа:

— Божачка, які ты ідыёт! Я забыла ў таксі сумачку з грашыма, а ты, як заўсёды, умудрыўся не запісаць нумар!

### АПРАЎДАЎСЯ

— Учора ты зноў выпіваў, — кажа жонка мужу раніцай.

— Я? Адкуль гэта ты ўзяла?

— Дык жа ўчора ты сам прызнаўся.

— А-а, сп'яна чалавек можа і дурніц нагаварыць.

### БОЛЬШ НЕ ПАЎТОРЫЦЦА

— Вася, чаму ты спазніўся на ўрок? — спытаў настаўнік.

— Я чысціў зубы, але даю вам слова, гэта больш ніколі не паўторыцца.

### АБОЕ РАБОЕ

— Наўрад ці я першая жанчына, якую ты пацалаваў, Артур. Вельмі ўмела гэта робіш.

— Магчыма. Але ты адкуль гэта ведаеш?

### МОЦНАЕ КАХАННЕ

— Вы шчаслівыя ў сямейным жыцці?

— О, так! Мы так моцна кахаем адзін другога, што ўжо тры разы адкладвалі развод.

### МУКІ

— Шчыра кажучы, гаспадар, працуючы на вашым хутары, я адчуваю сур'ёзныя мукі сумлення, — заявіў батрак багатаму фермеру.

— З чаго б гэта? — спытаў фермер.

— Таму што асуджаю на беспрацоўе двух коней.

### ПРЫНЦЫПОВЫ ВАРТАВЫ

Год колькі склад харчовы
Сабака вартаваў,
У пашане быў ён, словам,
Хоць і крадзёж бываў.

Каб разгадаць загадку,
Яго спыталі раз:
— Скажы, у чым справа, братка?
І быў такі адказ:

— Практычны маю звычай,
І прынцып гэткі мой,
Каб крадзенай здабычай
Дзяліліся са мной.

Хто дасць і мне „затраўку",
Тых краtаць не хачу:
Калі мне зручна — гаўкну,
А не — тады змаўчу!

**Мікола Вяршынін**

*— Ты не ведаеш, чым змываецца касметыка з падушкі?*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ірэны Якацюк, Галіны Нічыпарук, Яўгеніі Карнілюк, Яўгеніі Данілевіч і Сцяпана Рышчука з Рагачоў змяшчаем песню з рэпертуару групы „En Face" і Е. Грунвальда.

## POPĘDZIMY W DAL SANIAMI

**słowa: Lech Konopiński**
**muzyka: Jerzy Grunwald**

Pola już śniegiem błękitnieją,
potrząsa grzywą wierny koń.
trzeba uciekać przed zawieją!
Ruszajmy w drogę! Podaj dłoń!
Drzewa ubrane w czapy śnieżne,
puszysty dywan pokrył świat,
warto wyruszyć dzisiaj wcześnie,
by nas nie spotkał chłodny wiatr!
Refren:
Popędzimy w dal saniami,
niech zadymka ściga nas!
Drogą gładką jak aksamit
poprzez pola, poprzez las!
Popędzimy w dal saniami,
w roziskrzoną, śnieżną noc!
Śpiewu dzwonków posłuchamy,
z mroźnej zimy sobie drwiąc!
Pola już śniegiem błękitnieją...
Popędzimy w dal saniami,
niech zadymka ściga nas!
Drogą gładką jak aksamit
poprzez pola, poprzez las!
Popędzimy w dal saniami,
pył posypie się spod płóz,
w gwiazdkach śniegu zakochani,
rozniecimy srebrny kurz!

## КУРЁЗЫ

### НА ШАШЫ ПАД ВЕТРАЗЕМ

Нядаўна на адной з галандскіх аўтастрад адбылося яўнае парушэнне правілаў дарожнага руху — па бетоннаму палатну імчалася... яхта пад ветразем. Парушальнікам быў малады архітэктар, які пабудаваў „аўтамабіль" з лодкі, пастаўленай на колы. Замест рухавіка, які выкарыстоўвае дэфіцытны бензін, ён умацаваў стары добры ветразь. Паліцыя, якая затрымала вадзіцеля арыгінальнага транспартнага сродку, вымушана была яго адпусціць: ён ехаў у нядзелю, не ўжываючы бензіну і не забруджваючы акружаючае асяроддзе.

### ПРАЎДУ І ТОЛЬКІ ПРАЎДУ

Нядаўна перад французскім судом у Ліёне сталі чацвёра бандытаў, якія са зброяй у руках хацелі абрабаваць адзін з мясцовых банкаў. Сярод сведак быў пенсіянер Марсель Бакаві, чалавек пажылы і ўжо зусім лысы.

— І калі я ўбачыў, што бандыты выхапілі з кішэняў пісталеты, — даваў паказанні Бакаві, — у мяне валасы на галаве сталі дыбам!..

— Прашу звярнуць увагу сведкі, — перапыніў яго ў гэты момант суддзя Жак Армано, — што сведка дае паказанні пад прысягай і павінен гаварыць праўду і толькі праўду!

### У КОЖНАГА СВАЁ ХОБІ

Як паведамляе пражская газета „Свабодна слова", у Чэхаславакіі жыве „чэмпіён свету" па збору ярлыкоў з назвамі гасцініц. Гэта Йозеф Навотны — супрацоўнік адміністрацыі атэля горада Ліберэц. У яго калекцыі — 39 тысяч фірменных ярлыкоў многіх гасцініц свету.

Другая па размерах калекцыя належыць аднаму іспанцу. Але яна меншая ў пяць разоў. У ёй усяго толькі восем з лішнім тысяч маляўнічых ярлыкоў.

## Смяёмся з намі

*Дурня і маўчанне выдае.*